


# Рэгіянальная газета

31 мая 2013 года
№ 22 (944)






http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".


# РАСКЛАД

**руху цягнікоў па станцыі Маладзечна ад 26 мая 2013 года**



**На бюджэт спадзявацца – марнаваць час. Прайшла прэзентацыя праекта турыстычнага комплексу ў раёне замчышча.**

2-я старонка



## навіны рэгіёна

### "Увага – дзеці!"

**МАЛАДЗЕЧНА. ВІЛЕЙКА. ВАЛОЖЫН. МЯДЗЕЛ.** Ад 27 мая да 7 чэрвеня дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці ладзіць спецыяльнае мерапрыемства пад дэвізам "Увага – дзеці!" Яго мэта – прафілактыка дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму. Паважаныя кіроўцы! Будзьце асабліва асцярожныя, калі праязджаеце паблізу дзіцячых садкоў, лагераў, школ, стадыёнаў, сквераў і паркаў. Памятайце, што дзецям уласцівая няўважлівасць, а ў нашых сілах папярэдзіць гора і зрабіць канікулы не толькі радаснымі, але і бяспечнымі. Паважаныя бацькі! Калі вы адпраўляеце дзіця на адпачынак у вёску альбо аздараўленчы лагер, абавязкова паразмаўляйце з ім аб дарожнай бяспецы. Патлумачце, што ні ў горадзе, ні ў вёсцы нельга ні на хвіліну страчваць увагу паблізу дарог. Нагадайце дзіцяці, як правільна кіраваць веласіпедам, што нельга гуляць на дарозе і ўзгадайце пра небяспечнае захапленне паганяць на матацыкле.

**Дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці.**







# "По диким степям Забайкалья"

## Імя аўтара сусветна вядомай песні вяртае землякам яго аднавясковец




Прафесар Аляксандр Смолік, які нарадзіўся ў вёсцы Каловічы ля Вілейкі, даследуе жыццё і творчасць свайго аднавяскоўца аўтара сусветна вядомых рускіх песень, таленавітага празаіка, перакладчыка і педагога Івана Кандрацьева.

**ВІЛЕЙКА. Імя аўтара песень "По диким степям Забайкалья", "Очаровательные глазки", якія даўно сталі народнымі, Івана Кандрацьева (1849 – 1904), ураджэнца вёскі Каловічы ля Вілейкі, паэта, празаіка і педагога, вярнуў сваім суайчыннікам Аляксандр Смолік.**

У мінулую суботу ў Вілейскім краязнаўчым музеі адбылася першая Кандрацьеўскія чытанні – навуковая канферэнцыя "Талент, непадуладны часу". Арганізатарамі выступілі Мінкульт, Белдзяржуніверсітэт культуры і мастацтваў, Вілейскі райвыканкам. У межах гэтага мерапрыемства адбылася прэзентацыя больш чым 250-старонкавай кнігі пра Кандрацьева яго земляка прафесара, доктара культуралогіі **Аляксандра Смоліка** "Божы дар Івана Кандрацьева".

Нельга сказаць, што імя Кандрацьева было абсалютна забытае ці невядомым заставалася месца яго нараджэння. Ён часам падпісваў свае дopісы ў перыядычныя выданні словамі "крестьянин села Коловичи Вилейского уезда". Месца нараджэння правільна ўказвалася ў даведачнай літаратуры.

Вось толькі ў Каловічах пра гэта амаль забыліся. Усё пачало мяняцца пасля таго, як работнік культуры, жыхарка Каловічаў **Тамара Бурко** пачала рыхтаваць сцэнарый свята вёскі.

– Я пайшла ад хаты да хаты, распытваючы жыхароў пра тое, што яны ведаюць аб вёсцы, – расказвае Тамара. – І праз колькі дзён я, прыезджая, ведала аб паселішчы больш, чым яго карэнныя жыхары. Мяне зацікавілі няясныя згадкі пра нейкага чалавека-дзівака, які нарадзіўся тут, выехаў, аўтара нібыта буквара.

І дапытлівая вяскоўка звяртаецца па дапамогу да краязнаўца Анатоля Рогача, які хутка дае адказ: у Каловічах нарадзіўся рускі пісьменнік і паэт, аўтар у тым ліку сусветна вядомай песні "По диким степям Забайкалья" Іван Кандрацьеў.

Паралельна над гэтай тэмай працаваў ураджэнец Каловічаў доктар культуралогіі , прафесар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтва Аляксандр Смолік, які натрапіў на публікацыі Кандрацьева ў Нацыянальнай бібліятэцы. Ён і вярнуў землякам з забыцця імя славутасці, выдаўшы згаданую ўжо манаграфію і прыняўшы самы актыўны ўдзел у арганізацыі і правядзенні чытанняў у Вілейцы.

Краязнаўца і навуковец **Сымон Барыс** адзначыў у інтэрв'ю "РГ", што сваю кнігу прафесар Смолік выдаў у вельмі сціслыя тэрміны:

– Я так не ўмею, – пажартаваў краязнавец.

У нядаўна выпушчанай ім кнізе "Беларускія песні і гімны" змешчаны пераклад на беларускую мову песні "По диким степям Забайкалля", выкананы **Вітаўтам Мартыненкам**.

**Мікола ГАЙДУК.**

**Працяг тэмы на 20-й стар.**

# На бюджэт спадзявацца – марнаваць час

**МАЛАДЗЕЧНА. На прэзентацыі праекта турыстычнага комплексу ў раёне замчышча, якую праводзіў дабрачынны фонд "Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага", на мінулым тыдні намеснік старшыні райвыканкама Наталля Нікіценка сказала, што такі праект павінен быць камерцыйным.**



Фота Аляксандра МАЦВЕІЧА.

Мікалай Тамашэўскі прэзентуе праект замчышча.

На пасяджэнні абмяркоўваліся розныя варыянты развіцця магчымага праекта.

Дырэктар музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскага **Рыгор Сарока** сказаў, што за год з дня ўтварэння фонду зроблена шмат. Устаноўлены сувязі з зацікаўленымі ў захаванні спадчыны Агінскіх у Літве, Расіі, Швецыі.

**Мікалай Тамашэўскі**, які прадставіў сваё бачанне развіцця навакolля замчышча, паказаў магчымыя варыянты забудовы будучага комплексу. Эскізы выраблялія пры дапамозе 3D-праектных дызайнерскіх праграм.

На думку Мікалая Тамашэўскага, адна з цэнтральных пабудоў комплексу – рэканструкцыя палаца Агінскіх – дазволіць размясціць у будынку або грамадскі цэнтр, або гасцініцу. У першым выпадку (ахвотныя арандаваць памяшканні, па словах выступоўцы, ужо ёсць) будынак будзе глядзецца на сажалку. У другім вадаём побач будзе ўяўляць сабой басейн.

Розныя будынкі, збудаваныя пераважна з дрэва, могуць выконваць самыя розныя функцыі ў залежнасці ад канкрэтнага напаўнення праекта.

Намеснік старшыні райвыканкама Наталля Нікіценка, якая курыруе ў тым ліку пытанні інвестыцый у раённую эканоміку, сказала, што праект павінен быць больш камерцыйным: "На бюджэт спадзявацца – марнаваць час".

Яна паказала, што погляд на архітэктурнае і функцыянальнае запаўненне прасторы комплексу можа быць самым розным. Як прыклад, эскізы, створаныя ў творчай майстэрні архітэктара **Утулкіна**.

– Пачынаць увасабленне нейкіх праектаў у жыццё трэба з асэнсавання і прыняцця нейкай канцэпцыі, – заўважыла дырэктар Мінскага абласнога краязнаўчага музея **Таіса Лянкевіч**.

З ёй пагадзілася член фонду **Наталля Гайковіч** і дадала, што трэба стварыць адмысловую групу па распрацоўцы праекта і звяртацца ў райвыканкам для зацвярджэння такой канцэпцыі выканкамам або сесіяй райсавета.

Наша выданне будзе паведамляць аб тым, што адбываецца вакол лёсу спадчыны Міхала Клеафаса Агінскага ў Маладзечне.

**Аддзел інфармацыі.**

## Аўтар неўміручых песень

*Працяг. Пачатак на 1-й стар.*

**Іван Казіміравіч (Кузьміч) Кандрацьеў. Рускі гісторык, масквазнаўца, празаік, паэт, драматург, педагог, перакладчык нарадзіўся 9 (21) чэрвеня 1849 года ў в.Каловічы Вілейскага павета ў беднай сялянскай сям'і.**

Ён – аўтар шматлікіх аповесцей і раманаў. У песенны фальклор ўвайшлі песня "По диким степям Забайкалья", раманс "Эти очи – темны ночи", "Очаровательные глазки" і іншыя яго песні і рамансы.

У дзіцячым ўзросце яго аддалі на вучобу ў Смаленск у так званую школу ваенных кантаністаў. Такія школы былі першай ступенню службы ў Расійскім войску, якая часам расцягвалася да 25 гадоў. У 1858 годзе пасля роспуску школ кантаністаў па ўсёй Расіі быў пераведзены ў фельчарскую школу пры Медыка-хірургічнай акадэміі ў Пецярбургу, але неўзабаве яе кінуў.

З другой паловы 1860-х гадоў служыў у канцылярыі папячыцеля Віленскай навучальнай акругі, іграў у Віленскім тэатры.

У 1870-х гадах працаваў сакратаром маскоўскіх перыядычных выданняў, у розных з іх змяшчаў свае вершы, апавяданні, раманы. Асобнымі выданнямі выходзілі п'есы-жарты, драмы з народнага жыцця, гістарычныя аповесці і драмы, паэмы. На вершы Кандрацьева музыку пісалі Васіль Залатароў і іншыя кампазітары.

У 1872 годзе на арганізаванай у гонар 200-годдзя з дня нараджэння Пятра І Політэхнічнай выставе ў Маскве атрымаў за сваю гістарычную драму "На Паволжы" Вялікі залаты медаль.

Вядомыя яго раманы "Салтычиха", аповесці, драматычныя карціны ў вершах "Смерть Аттилы", "Пушкин у цыган", "Пир Стеньки Разина", гістарычныя нарысы "Седая старина Москвы", вершы, пераклады.

Выдаўцы Нікольскага рынку, якія выкуплялі рукапісы і ў Кандрацьева, выпускалі кнігі літаральна за некалькі дзён, але плацілі аўтарам вельмі мала. Бывала, рукапіс рамана купляўся за пяць рублёў. Знакаміты выдавец І. Д. Сыцін ва ўспамінах "Жыццё для кнігі" пісаў: "Катаржная праца гэтых літаратурных жабракоў ніяк не аплачваецца: гэта хутчэй за міласць, чым літаратурны ганарар".

Кандрацьеў сябраваў з Аляксеем Саўрасавым, Мікалаем Успенскім, Уладзімірам Гіляроўскім, Антонам Чэхавым, пачаткоўцам Левітанам, іншымі вядомымі людзьмі таго часу.

Біяграфію і творчасць Івана Кандрацьева ў Беларусі даследуе яго аднавясковец, ураджэнец вёскі Каловічы прафесар Аляксандр Смолік.

Шырокавядомая песня "По диким степям Забайкалья" перакладзеная на беларускую мову Вітаўтам Мартыненкам.

У маі 1904 года Кандрацьеў выпадкова трапіў у п'яную бойку, быў жорстка збіты і 19 мая (1 чэрвеня) ён на бальнічным ложку памёр.

Пахаваны ў Маскве на Лазараўскіх могілках. У 1930 гадах улады знішчылі могілкі. Пазней тут стварылі дзіцячы парк.

**Аддзел інфармацыі.**

ЮБІЛЕЙ

## Міхаіл Казінец даў канцэрт у Вілейцы

**ВІЛЕЙКА. Ужо стала добрай традыцыяй, што народны артыст Беларусі Міхаіл Казінец прыязджае адзначаць свой юбілей на малую радзіму – Вілейшчыну.**

І не адзін, а з цэлым аркестрам. Вось і 24 мая віляйчане атрымлівалі асалоду ад музыкі Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра імя Жыновіча. А яго дырыжор Міхаіл Казінец атрымліваў падарункі ад сваіх землякоў.

Павіншаваць 75-гадовага юбіляра на сцэну выходзілі і кіраўнікі раёна і школ – мастацтваў і сярэдняй, дзе вучыўся маэстра, і простыя людзі: суседзі і радня. Але не толькі Міхаіл Казінец атрымаў у гэты дзень падарункі. Сёлета музыка выдаў кнігу, дзе сабраў газетныя артыкулы пра яго і інтэрв'ю з ім. Гэтае выданне атрымала ў падарунак родная для дырыжора 1-я школа Вілейкі.

У канцэрце таксама прынялі ўдзел віляйчанка **Наталля Салава**, зорка беларускай эстрады **Пётр Ялфімаў** ды іншыя салісты аркестра.

Юбіляр жартаваў са сцэны, нібы няма яму тых гадоў. А зала ўдзячна пляскала ў далоні, запрашаючы Міхаіла Казінца і надалей святкаваць свае юбілеі ў Вілейцы.

**Аўгіня МАНЦЭВІЧ.**



ВОЛЬНЫ ЧАС

## Як зрабіць адпачынак на вадзе бяспечным

**Галоўнае правіла адпачынку: ні ў якім разе не заходзіць у ваду п'яным. Бо асноўнай прычынай трагедый на вадаёмах з'яўляецца купанне ў нецвярозым стане.**

**МАЛАДЗЕЧНА.** Маладзечанскі райвыканкам 26 красавіка прыняў рашэнне, у якім замацаваў спіс месцаў, дзе можна купацца:
1) вадаём санаторыя "Сасновы Бор"
2) вадаём Дома адпачынку "Алеся"
3) вадаём пасёлка Беразінскае
4) вадаём вёскі Хажова
5) вадаём Удранка ў Радашкавічах.

Распрацаваны план мерапрыемстваў па падрыхтоўцы пляжаў і месцаў для купання ў Маладзечанскім раёне. Спецыялісты Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі падчас лабараторнага кантролю вызначылі, што якасць вады ў гэтых вадаёмах адпавядае гігіенічным нарматывам, месцы для адпачынку прыбраныя.

Не цалкам выкананыя мерапрыемствы толькі на пляжы ля вадаёма Удранка.

**ВІЛЕЙКА.** Вілейская раённая інспекцыя прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя склала спіс з трох месцаў, дазволеных для купання:
1) пляж "Сонечны" па вуліцы Савецкай
2) сажалка ў Асіпавічах
3) Вілейскае вадасховішча.

Калі вы вырашылі адпачыць ля вадаёма з дзецьмі, то ні на хвіліну не пакідайце іх адных. Нават калі яны ўмеюць плаваць і знаходзяцца каля берага.

Аптымальны час знаходжання ў вадзе 10-15 хвілін, празмернае пераахаладжэнне можа прывесці да сутаргаў, што вельмі небяспечна.

Не забывайце абараняць галаву ад сонечных промняў. Не хадзіце да вадаёма па адным.

**Яўген КАРОСЦІК.**

# Расклад руху цягнікоў ад 26 мая 2013 па станцыі Маладзечна

| № цягніка | Маршрут | Адпраўленне | Па ст. Маладзечна | | | Прыбыццё на канцавую станцыю | Дні курсіравання |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | прыбыццё | стаянка | адпраўленне | | |
| 29Ч | Масква-Калінінград | 14.29 | 0.29 | 3 | 0.32 | 11.27 | штодз. |
| 625Б | Мінск-Віцебск | 23.28 | 0.45 | 28 | 1.13 | 7.35 | штодз. |
| 634Ф | Магілёў-Гродна | 19.09 | 1.10 | 2 | 1.12 | 5.35 | няцотныя |
| 623Б | Віцебск-Гродна | 18.50 | 1.10 | 2 | 1.12 | 5.35 | цотныя |
| 148Ч | Калінінград-Масква | 16.56 | 1.59 | 3 | 2.02 | 15.21 | няцотныя, ад 19.06 да 31.08 штодз. |
| 77Щ | Масква-Гродна | 17.08 | 3.42 | 6 | 3.48 | 8.31 | штодз. |
| 360Ч | Калінінград-Адлер | 19.03 | 4.01 | 2 | 4.03 | 8.07 | па чыслах: 3, 7, 11, 15, 19, 23, 27. Ад 1.07 да 31.08 няцотныя |
| 626Б | Віцебск-Мінск | 21.40 | 4.11 | 32 | 4.43 | 6.06 | штодз. |
| 5Т | Масква-Вільня | 18.55 | 4.41 | 3 | 4.44 | 8.00 | штодз. |
| 88Р | Рыга-Мінск | 18.35 | 5.06 | 33 | 5.39 | 6.45 | штодз. |
| 425У | Чэлябінск-Калінінград | 20.20 | 5.36 | 2 | 5.38 | 16.31 | 19, 28/06, 8, 17, 26/07, 12, 21, 30/08, 9, 18, 27/09 |
| 38Т | Вільня-Мінск | 6.55 | 8.24 | 2 | 8.26 | 9.25 | штодз. |
| 147Ч | Масква-Калінінград | 21.44 | 8.27 | 2 | 8.29 | 19.40 | цотныя, ад 24/06 да 1/09 штодз. |
| 15Б | Мінск-Вільня | 7.40 | 8.40 | 2 | 8.42 | 10.10 | штодз. |
| 201Б | Мінск-Вільня | 8.45 | 9.50 | 2 | 9.52 | 12.33 | субота, нядзеля |
| 79Ч | С. Пецярбург-Калініград | 20.10 | 9.59 | 15 | 10.14 | 21.14 | ад 29/05 да 31/08 няцотныя, ад 31/09 па панядз. і чц. |
| 630Б | Гродна-Мінск | 6.16 | 10.11 | 4 | 10.15 | 11.24 | штодз. |
| 13Б | Мінск-Вільня | 10.18 | 11.18 | 2 | 11.20 | 13.05 | штодз. |
| 14Р | Вільня-Мінск | 14.58 | 16.45 | 2 | 16.47 | 17.45 | штодз. |
| 629Б | Мінск-Гродна | 16.17 | 17.28 | 4 | 17.32 | 21.20 | штодз. |
| 426У | Калінінград-Чэлябінск | 9.01 | 18.05 | 3 | 18.08 | 6.07 | 4, 13, 22/06, 2, 7, 11, 20/07, 6, 15, 24/08, 3, 12/09 |
| 80Ч | Калінінград-С. Пецярбург | 10.02 | 18.55 | 13 | 19.08 | 11.06 | ад 27/05 па 31/08 няцотн., ад 1/09 па аўт. і сб. |
| 37Б | Мінск-Вільня | 18.50 | 19.50 | 2 | 19.52 | 21.20 | штодз. |
| 16Р | Вільня-Мінск | 18.14 | 19.42 | 2 | 19.44 | 20.41 | штодз. |
| 6Т | Вільня-Масква | 16.55 | 20.24 | 2 | 20.26 | 9.01 | штодз. |
| 359С | Адлер-Калінінград | 14.25 | 20.13 | 2 | 20.15 | 7.24 | 7, 11, 15, 19, 23, 27, ад 7/07 да 7/09 няцотн. |
| 634Б | Гродна-Магілёў | 16.00 | 21.20 | 8 | 21.28 | 5.27 | няцот. |
| 624Б | Гродна-Віцебск | 16.00 | 21.20 | 8 | 21.28 | 4.50 | цотн. |
| 78Б | Гродна-Масква | 16.56 | 21.44 | 4 | 21.48 | 10.26 | штодз. |
| 30Ч | Калінінград-Масква | 13.06 | 22.07 | 4 | 22.11 | 9.27 | штодз. |
| 87Б | Мінск-Рыга | 21.25 | 22.34 | 31 | 23.05 | 9.35 | штодз. |
| 202Р | Вільня-Мінск | 20.54 | 23.38 | 2 | 23.40 | 0.45 | субота, нядзеля |
| 493Б | Полацк-Сімферопаль | 17.40 | 20.37 | 28 | 21.05 | 5.20 | 14, 18, 22, 30/06, 6, 10, 14, 18, 22, 26, 30/07, 6, 10, 14, 18, 22, 26, 30/08, 6, 10, 14, 18, 22/09 |
| 494П | Сімферопаль-Полацк | 10.55 | 18.16 | 29 | 18.45 | 21.45 | 17, 21, 25, 29/06, 9, 13, 17, 21, 25, 29/07, 9, 13, 17, 21, 25, 29/08, 9, 13, 17, 21, 25/09 |

| Маладзечна-Мінск | | | | Мінск-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № цягніка | Адпраўленне | Прыбыццё | Заўвагі | № цягніка | Адпраўленне | Прыбыццё | Заўвагі |
| 6102 | 4.14 | 5.58 | без спынення Селівонаўка | 6101 | 0.26 | 2.06 | б/с Татаршчызна, Селівонаўка |
| 6104 | 5.09 | 6.59 | | 6103 | 4.37 | 6.09 | б/с Мін. мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі |
| 6108 | 5.53 | 7.39 | | 6105 | 5.18 | 7.01 | |
| 6110 | 6.26 | 8.08 | штодз. да Бабруйска, б/с Зялёнае, Крыжоўка, М. Мора | 7135 | 6.10 | 7.28 | Мінск-Маладзечна з прыпынкамі Ждановічы, Мінск-паўночны, далей да Гудагая, б/с Гауці, Скрэсц., Каменка |
| 6112 | 7.30 | 9.10 | б/с Зялёнае, Крыжоўка, Ратамка, М. Мора | 6107 | 6.35 | 8.19 | |
| 6116 | 8.42 | 10.29 | | 6109 | 7.47 | 9.31 | |
| 7336 | 9.20 | 10.41 | спыняецца толькі на ст. Ждановічы і Мінск-паўночны | 6111 | 8.52 | 10.37 | |
| 6118 | 9.47 | 11.43 | | 6113 | 9.26 | 11.10 | |
| 6120 | 11.00 | 12.44 | | 6115 | 10.50 | 12.38 | |
| 6768 | 12.39 | 14.17 | б/с Раманы, Хмелеўка, Зялёнае. Па пятніцах і выхадных | 6119 | 11.53 | 13.37 | |
| | | | | 6121 | 12.45 | 14.32 | |
| 6122 | 13.32 | 15.18 | | | | | |
| 6124 | 14.49 | 16.31 | да ст. Мінск-паўночны | 6771 | 14.50 | 16.35 | б/с Селівонаўка, па пятніцах і выхадных |
| 6126 | 15.51 | 17.37 | | 6123 | 15.33 | 17.19 | |
| 6128 | 17.02 | 18.49 | | 6125 | 16.33 | 18.17 | |
| 6130 | 17.50 | 19.30 | б/с Зялёнае, Крыжоўка, М. Мора | 7337 | 17.55 | 19.18 | ад Мінска да Маладзечна спыняецца ў Ждановічах і Мінск-паўночны. Далей Маладзечна-Гудагай: спыняецца на станцыях і прыпыначным пункце Маладзёжны |
| 6132 | 18.45 | 20.32 | | 6127 | 17.28 | 19.07 | б/с Крыжоўка, М. Мора, Зялёнае |
| 6134 | 19.52 | 21.37 | б/с Селівонаўка, Анусіна | 6129 | 18.15 | 20.03 | б/с Крыжоўка, М. Мора, Зялёнае |
| 6136 | 20.41 | 22.25 | | 6131 | 19.45 | 21.24 | б/с Крыжоўка, М. Мора, Зялёнае |
| 7338 | 21.59 | 23.12 | Гуд.-Мал. са спыненнем па ст. і п.п. Маладзёжны. Мал. – Мінск са спыненнем Ждановічы, Мінск –паўн. (ад 26.05 да 23.09) | 6143 | 20.44 | 22.45 | |
| 7338 | 21.14 | 22.36 | ад 24.09.13 | | | | |
| 6138 | 22.20 | 23.57 | б/с Раманы, Пралескі, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка | 6135 | 22.03 | 23.42 | б/с Мясата, Татаршчызна, Крыніца, Селівонаўка |

| № цягніка | Адпраўленне | Прыбыццё | Заўвагі | № цягніка | Адпраўленне | Прыбыццё | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Маладзечна-Гудагай** | | | | **Гудагай-Маладзечна** | | | |
| 6883 | 6.28 | 7.45 | штодз. са спын. па ст. і пр. пункце (п.п.) Маладзёжны | 6884 | 5.39 | 7.14 | штодз. |
| 7335 | 7.38 | 9.08 | штодз. ад Мінска. Мінск-Мал. са спын. на пр. Мінск паўн. Ждановічы. Далей ад Мал. да Гуд. спын. Гауці, Скрэсц., Каменка | 7336 | 8.00 | 9.17 | ад Гуд. на Мінск. Ад Гуд. да Мал. са спын. па ст. і п.п. Маладзёжны, ад Мал. да Мінска са спын. Ждановічы, Мінск-паўн. |
| 6885 | 8.50 | 10.28 | штодз. | 6886 | 9.36 | 10.52 | штодз. са спыненнем па ст. і п.п. Маладзёжны |
| 6887 | 12.38 | 13.33 | раб. да Смаргоні | 6888 | 10.43 | 12.17 | штодз. |
| 6971 | 13.29 | 15.07 | вых. | 6890 | 13.49 | 14.41 | раб. са Смаргоні |
| 6889 | 15.58 | 17.38 | штодз. да Гуд. | 6972 | 15.25 | 17.07 | вых. |
| 6891 | 17.56 | 19.33 | штодз. | 6892 | 17.58 | 19.34 | штодз. |
| 7337 | 19.21 | 20.52 | штодз. ад Мінска. Мінск-Мал. са спын. на пр. Ждановічы, Мінск-паўн. Далей ад Мал. да Гуд. спын. па станц. і п.п. Маладзёжны | 7338 | 20.33 (ад 26.05), 19.48 (ад 24.09) | 21.57 (па 23.09), 21.12 (ад 24.09) | ад Гуд. на Мінск. Ад Гуд. да Мал. са спын. па ст. і п.п. Маладзёжны, ад Мал. да Мінска са спын. Ждановічы, Мінск-паўн. |
| 6893 | 20.43 | 22.21 | штодз. | 6894 | 21.23 | 23.01 | штодз. |
| **Маладзечна-Ліда** | | | | **Ліда-Маладзечна** | | | |
| | | | | 6264 | 4.08 | 7.08 | штодз. |
| 6263 | 8.38 | 11.37 | штодз. | | | | |
| 6977 | 12.41 | 15.44 | вых. | 6266 | 9.07 | 12.12 | штодз. |
| | | | | 6978 | 12.19 | 15.19 | вых. |
| 6265 | 17.52 | 20.51 | штодз. | 6268 | 16.14 | 19.14 | штодз. |
| 6267 | 20.32 | 23.37 | штодз. | | | | |
| **Маладзечна-Крулеўшчына-Полацк** | | | | **Крулеўшчына-Маладзечна** | | | |
| 6682 | 7.26 | 9.17 | вых. Параф'янава | 6621 | 4.46 | 6.58 | штодз. адпр. ад Глыбокага ў 4.10 |
| 6626 | 8.54 | 11.05 | штодз. | 6681 | 9.58 | 11.49 | вых. Параф'янава |
| | | 13.05 | прыб. у Полацк | 6683 | 15.17 | 17.38 | вых. |
| 6684 | 12.35 | 14.48 | вых. да Крулеўшчыны | 6675 | 17.03 | 17.38 | раб. ад Вілейкі |
| 6676 | 16.14 | 16.49 | раб. да Вілейкі | 6625 | 17.34 | 19.45 | штодз. |
| 6630 | 20.13 | 22.23 | штодз. | | | 15.37 | адпр. ад Полацка |
| | | 23.00 | прыб. у Глыбокае | | | | |

Даведка па тэлефоне **8-(0176) 74-24-23.**

■ **ЗДАРЭННІ**

## Іншамарка ўрэзалася ў дрэва

**МЯДЗЕЛ. Аварыя адбылася ноччу 26 мая за паўкіламетра ад вёскі Нарач (Кабыльнік). У МНС патэлефанавалі каля 02.00.**

На дапамогу выязджалі два баявыя разлікі – з к. п. Нарач (Купа) і Кабыльніка.

Кіроўца легкавога аўтамабіля "Вольва-460" не справіўся з кіраваннем, і машына ўрэзалася ў дрэва. 23-гадовы кіроўца не пацярпеў, спрацавала падушка бяспекі. Ён выйшаў з машыны сам.

– А вось на год маладзейшага пасажыра давялося даставаць выратавальнікам пры дапамозе гідраўлічнага інструмента, – паведаміў намеснік начальніка раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях **Віктар Булыга**.

Пацярпелы з пераломам правага сцягна дастаўлены ў хірургічнае аддзяленне раённай бальніцы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Украў туалетную ваду

**МАЛАДЗЕЧНА. У нядзелю, 26 мая, 31-гадовы мужчына ўкраў туалетную ваду ў адной з маладзечанскіх крамаў.**

Крадзеж здарыўся каля 19.20. Украўшы ваду, мужчына паспрабаваў збегчы. Але супрацоўнікі міліцыі злавілі яго ў парку на вуліцы Багдана Хмяльніцкага.

Мужчыну, жыхара вёскі Краснае, судзілі ўжо раней за крадзеж і разбой.

Пра гэта паведаміў старшы следчы Маладзечанскага аддзела Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

### Цэны на рынку

(Маладзечна)

| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | 22.05 | 29.05 |
|---|---|---|
| **Малако,** 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла,** 1 кг | 70000 | **65000** |
| **Тварог,** 1 кг | 45000 | **35000** |
| **Яйкі курыныя,** 1 дзес. | 17000 | **15000** |
| **Сала,** 1 кг | 58000 | **50000** |
| **Бульба маладая,** 1 кг | 16000 | **13000** |
| **Мёд,** 1 кг | 50000 | **50000** |

ПРАКУРАТУРА, СУД

# Трое мужчын кралі і рабавалі ў Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА. Ва ўсіх іх ужо ёсць па чатырыпяць судзімасцей. На гэты раз двое з іх апынуліся за кратамі на 8 гадоў.**


Фота p.twimg.com.

Мужчыны кралі ўсё без разбору: байку, фіранкі, падкоўдранік, шкарпэткі.

### Справа № 1

Двое маладзечанцаў **Леанід** і **Віталь** 4 снежня 2011 года хацелі выпіць і вырашылі абрабаваць дом па завулку Асіпенкі ў Маладзечне. Каля 23.00 яны разбілі шкло ва ўваходных дзвярах і накралі розных будаўнічых інструментаў больш чым на 2,5 мільёна рублёў.

### Справа №2

Потым Леанід, ужо з іншым напарнікам, **Аляксандрам**, летась 10 жніўня каля 12.30 вырашылі зноў абрабаваць дом. Нецвярозыя, яны зайшлі ў адчынены дом па вуліцы Велікасельскай у Маладзечне. Аляксандр ударыў у грудзі гаспадару. Той не разгубіўся, схапіў драўляную палку і ўдарыў ёй крыўдзіцелю па плячах і па галаве.

Леанід жа так і застаўся стаяць ля ўваходу. А потым ён увайшоў у дом і пачаў душыць гаспадара ззаду. У гэты час Аляксандр прыйшоў у сябе і ўдарыў гаспадара па галаве. Той зваліўся на падлогу.

Леанід жа наступіў на грудзі пацярпеламу, а калі ў таго атрымалася падняцца, Аляксандр ударыў яго патэльняй. Леанід далучыўся і пачаў збіваць мужчыну ручкай нажа. Потым Аляксандр схапіў драўляную палку, пачаў ёй біць гаспадара і патрабаваць аддаць грошы.

Мужчына прапанаваў сваім крыўдзіцелям выйсці ў двор у павець. Тыя пагадзіліся і павялі туды гаспадара, але трымаючы каля яго нож. Там яны забралі ў пацярпелага 700 тысяч рублёў. Калі яны вярталіся ў дом, гаспадар паспрабаваў абараніцца сякерай. Але нарваўся яшчэ на некалькі ўдараў па галаве абухом сякеры і ручкай нажа.

### Справа №3

Праз чатыры дні Леанід з Аляксандрам вырашылі ў чарговы раз накрасці грошай, каб набыць алкаголь. Каля 22.00 яны ўвайшлі ў дом па завулку Асіпенкі. Дзверы былі адчыненыя. Гаспадар дома быў нецвярозы, і таму Леанід з Аляксандрам засталіся незаўважанымі.

Адчуўшы, што ім нічога не пагражае, яны пачалі забіраць сабе ўсё, што трапляла пад руку: сланцы, смятану, грыбы, курыцу, рыбу, тлушч, слоік маліны, тварог, сала і яшчэ шмат чаго, што можна знайсці ў халадзільніку.

Потым мужчыны накіраваліся ў іншы пакой у гэтым доме. Адтуль яны кралі ўсё без разбору: байку, джэмпер, шторы, фіранкі, кепку, падкоўдранік, шкарпэткі, манікюрны набор, упакоўку, накрыўкі, бутэлечку "Карвалола" і яшчэ шмат розных рэчаў, якія можна знайсці ў любым доме.

Дапытаны на судзе абвінавачаны Віталь прызнаў сваю віну цалкам. Шкоду пацярпеламу кампенсаваў часткова, у суме 500 тысяч рублёў.

### Абвінавачаныя прыкінуліся пацярпелымі

Леанід і Аляксандр прызналі сваю віну толькі па справе крадзяжу. А ад віны ў разбоі адмаўляліся і расказвалі зусім іншую гісторыю, у якой быццам бы яны яшчэ і пацярпелі.

Аднак сведкі паўтаралі ўжо расказаную вышэй гісторыю. Кандуктарка маладзечанскага парка №4 у гэты час разам з кіроўцам былі на прыпынку на вуліцы Велікасельскай. І яны бачылі, як двое мужчын вялі пад рукі трэцяга, пажылога, з галавы якога сачылася кроў. У аднаго з мужчын у руках была сякера. Пажылога мужчыну зацягнулі ў павець. Адтуль стаў даносіцца нейкі шум. Потым яго выпхнулі адтуль і ўдарылі абухом сякеры па спіне.

Пацвердзілі гэта і іншыя сведкі.

### Прыгавор

Леаніду і Аляксандру суд прызначыў па 8 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй усёй маёмасці і з адбываннем пакарання ва ўмовах строгага рэжыму кожнаму. Іх таксама будуць прымусова лячыць ад алкагалізму.

Віталю суд прызначыў сем месяцаў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў выпраўленчай калоніі ва ўмовах строгага рэжыму.

Леанід і Віталь павінны выплаціць 1 мільён 790 тысяч рублёў пацярпеламу ад крадзяжу. Яшчэ адзін мільён – за маральную шкоду.

Пацярпеламу ад разбою яны выплацяць 700 тысяч рублёў і 1,5 мільёна рублёў – за маральную шкоду.

### Партрэты зладзеяў

Леанід: 36 гадоў, маладзечанец, сярэдняя спецыяльная адукацыя, беспрацоўны, разведзены, мае 5 судзімасцей (агулам яго ўжо прыгаворвалі больш чым да 17 гадоў пазбаўлення волі).

Аляксандр: 30 гадоў, без вызначанага месца жыхарства, няпоўная сярэдняя адукацыя, халасты, мае 4 судзімасці (агулам яго ўжо прагаворвалі амаль да 10 гадоў пазбаўлення волі).

Віталь: 31 год, маладзечанец, сярэдняя адукацыя, халасты, мае 5 судзімасцей (агулам яго ўжо прагаворвалі амаль да 8 гадоў пазбаўлення волі).

**Іван НЕЎМЯРЖЫЦКІ, старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

МІЛІЦЫЯ

## Загінуў пад цягніком

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарэнне адбылося 21 мая калі 21.30 на станцыі Алёхнавічы.**

У гэты час на станцыі нікога не было і адзінымі сведкамі смерці чалавека сталі машыніст і яго памочнік. Аднак яны заўважылі яго вельмі позна, калі выратаваць ад смерці было папросту немагчыма.

Машыніст сігналіў чалавеку на рэйках, уключыў экстраннае тармажэнне, але спыніць цягнік так хутка не мог, а мужчына не рэагаваў і працягваў сядзець.

Яму быў 61 год. Прапіскі не было.

З родных застаўся адзін брат.

Пра здарэнне расказала супрацоўнік маладзечанскага аддзялення ўнутраных спраў на транспарце **Таццяна Субач**.

**Настасся РОЎДА.**

## Так стараліся ўкрасці скутар, што выламалі руль

**МАЛАДЗЕЧНА. У суботу, 25 мая, у Маладзечне на стаянцы каля дома ў мужчыны ўкралі скутар.**

Ішлі а чацвертай гадзіне раніцы трое маладзёнаў. Вырашылі яны ўкрасці скутар, а ён – не заводзіцца. Тады хлопцы сталі яго штурхаць. Ды так штурхалі, што выламалі руль.

– Раніцай скутара на стаянцы ўжо не было, і гаспадар яго вырашыў звярнуцца ў міліцыю, – кажа старшы следчы Маладзечанскага аддзела Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**.

Ужо на наступны дзень скутар знайшлі. Зладзеі нідзе не працуюць, да таго ж адзін з маладзёнаў быў ужо судзімы.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## Сын збіў маці качаргой і забраў 100 тысяч рублёў

**ВІЛЕЙКА. Гэты выпадак адбыўся 9 мая ў вёсцы Даўгінава Вілейскага раёна.**

35-гадовы мужчына не працаваў, быў судзімы, злоўжываў спіртным і раней учыняў скандалы.

Увечары 9 мая прыйшоў дадому і стаў патрабаваць у маці-пенсіянеркі грошы. Калі тая запярэчыла, што на спіртное не дасць, стаў яе збіваць. Нанёс некалькі ўдараў качаргой. Завалодаў грашыма – 100 тысячамі рублёў – і патраціў іх на спіртное, паведаміў начальнік Вілейскага аддзела Следчага камітэта Беларусі **Мікалай Раманчук**.

Цяпер праводзіцца расследаванне – 27 мая пасля праверкі раённы аддзел Следчага камітэта ўзбудзіў крымінальную справу.

Сын знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрымання, яго маці шпіталізаваная.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ВЫШУК

## Дапамажыце адшукаць Васіля Зяновіча

**ВАЛОЖЫН. Раніцай 22 красавіка ён выйшаў з дому і не вярнуўся.**



Да цяперашняга часу яго не знайшлі.

Жыхару вёскі Мазулеўшчына Валожынскага раёна 32 гады.

**Прыкметы:** на выгляд каля 32 гадоў, сярэдняга росту (160-174 см), хударлявага целаскладу, плечы гарызантальныя, твар авальны, смуглы, еўрапейскі тып твару, лоб высокі, бровы прамыя, вочы блакітныя, нос сярэдні, прамы, рот сярэдні, вусны сярэднія таўшчыні з раўнамерным выступаннем, падбародак выступае, вушы сярэднія, па форме авальныя, валасы чорныя, коратка стрыжаныя, гаворка павольная, памер абутку 40-41.

**Асаблівыя прыкметы:** кульгае, ходзіць павольна, на адным плячы зробленая наколка.

Усіх, хто што-небудзь ведае пра месцазнаходжанне Васіля Зяновіча, просім паведаміць у Валожынскі РАУС па тэлефонах: **8-01772-55302, 8-01772-54021** (дзяжурная часць), маб.тэл. **8-029-6855302** (Вэлком), **8-029-5076698** (МТС) альбо **102.**

**Юлія СЕЛЯТЫЦКАЯ, старшы следчы Валожынскага РАСК.**

КРЫМІНАЛ

## Дапамажыце ў барацьбе з наркаманіяй

**МАЛАДЗЕЧНА. З 1 чэрвеня на Маладзечаншчыне ўводзіцца спецыяльная праграма "Мак".**

Пройдуць прафілактычныя мерапрыемствы, накіраваныя на знішчэнне пасеваў маку і канапель з прыцягненнем вінаватых асоб да адказнасці.

Асноўным відам наркотыкаў на Маладзечаншчыне з'яўляюцца каноплі і мак. За незаконны пасеў, вырошчванне маку і канапель без мэты збыту прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць, якая цягне накладанне штрафу да двух мільёнаў рублёў.

За незаконны пасеў альбо вырошчванне з мэтай збыту ці выраб наркатычных сродкаў, забароненых да апрацоўкі раслін, або культываванне з той жа мэтай гатункаў канапель, маку і іншых раслін, якія змяшчаюць наркатычныя рэчывы, прадугледжаная крымінальная адказнасць у выглядзе пазбаўлення волі да трох гадоў.

Продаж ці збыт гэтых наркатычных сродкаў з'яўляецца цяжкім злачынствам і прадугледжвае крымінальную адказнасць у выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам ад пяці да васьмі гадоў.

Каб пазбегнуць гэтых непрыемнасцяў, не сейце на сваіх прысядзібных участках і градах мак і каноплі. Калі ж яны выраслі самі, трэба іх знішчаць разам з іншым пустазеллем.

Калі вам што-небудзь вядома аб фактах збыту, захоўвання, вырабу, вырошчвання наркатычных сродкаў, тэлефануйце ў аддзяленне па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Маладзечанскага РАУС па тэлефонах: **8-029-7733915, 8-044-7863135.**

Ананімнасць гарантуецца.

**Паводле інфармацыі Маладзечанскага РАУС.**

ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА

# Што дапаможа эканоміцы

**Рэальнай мадэрнізацыі прадпрыемстваў магла б дапамагчы праграма "Еўрапейскі дыялог аб мадэрнізацыі для Беларусі", якую афіцыйны Мінск, на жаль, ігнаруе, упэўнены эканаміст Сяргей Чалы.**



Фота taganrog-avia.com.

Пётр Пракаповіч марыць давесці продаж беларускіх тавараў блізкім суседзям і далёкім краінам аж да 85%.

Віцэ-прэм'ер Пётр Пракаповіч марыць сёння экспартаваць 85% усёй беларускай прадукцыі, хоць за 2013 экспарт скараціўся ў 4 разы. Ставячы такую задачу-мару, чыноўнікі дзіўным чынам забываюць, што 75% вырабленай прадукцыі ідзе цяпер не за мяжу, а на склады.

Дык ці трэба ў такім выпадку Беларусі "мадэрнізацыя па Пракаповічу" і чаму ўлады адмаўляюцца ад паслуг "Еўрапейскага дыялогу аб мадэрнізацыі"?

Каментуе эканаміст Сяргей Чалы.

**– Пётр Пракаповіч марыць давесці продаж беларускіх тавараў блізкім суседзям і далёкім краінам аж да 85%. Гэта жарт ці сур'ёзная заява адказнага чыноўніка?**

– Мяркуйце самі: у самыя лепшыя часы – май 2011 года – нам атрымоўвалася экспартаваць дзве трэціны прадукцыі. Блізкі да дасягнутага тады быў 2012-ы. Потым гэты параметр зрабілі мэтавым.

Але фокус у тым, што адначасова ставяцца дзве ўзаемавыключальныя задачы: каб павялічыць экспарт, трэба абмежаваць унутраны пакупніцкі рэсурс, абмежаваць рост даходаў. А ўрад хоча вырашыць адразу дзве задачы: рост і экспарту, і ўнутраных даходаў.

**– Пракаповіч упэўнены, што эканамічнага ўздыму можна дабіцца за кошт мадэрнізацыі пяці тысяч прадпрыемстваў...**

– Гэта размовы на карысць бедных. Мадэрнізацыя тут ні пры чым. Уся статыстыка папярэдніх гадоў сведчыць: рост экспарту магчымы за кошт скарачэння ўнутранага спажывання.

**– Наколькі эфектыўная "мадэрнізацыя па Пракаповічу"? Давайце возьмем дрэваапрацоўчую галіну, сканцэнтраваную галоўным чынам у правінцыі. Калі нават атрымаецца выканаць загад Аляксандра Лукашэнкі і мадэрнізаваць "Барысаўдрэў" да 7 лістапада, ці атрымаюць барысаўчане выхад на новыя рынкі, уключаючы еўрапейскі?**

– Выхад на заходні рынак – вельмі складаная задача. Бо гэтая мадэрнізацыя прадпрыемстваў – вымушаная, пажарная мера па выратаванні фабрык і заводаў, якія пачалі рэзка губляць канкурэнтаздольнасць.

Немагчыма правесці сапраўдную мадэрнізацыю прадпрыемстваў, не змяняючы сістэму кіравання, размеркавання рэсурсаў. Я наогул скептычна стаўлюся да такой ідэі. Пра яе ж нічога канкрэтна невядома, за выключэннем таго, што пяць тысяч прадпрыемстваў маюць бізнес-планы.

Мадэрнізацыя можа расцэньвацца як скачок у светлае заўтра, а можа разглядацца і як завяршэнне таго працэсу, які ішоў усе папярэднія гады. Калі гаворка аб вялікім скачку ў светлае заўтра – ён немагчымы пры захаванні існуючай эканамічнай структуры. Больш за тое, чым маштабней мадэрнізацыя, тым больш маштабнае асваенне капіталу.

**– "Барысаўдрэў" – пад Мінскам ва ўсіх на ўвазе, таму столькі гаворыцца пра яго перабудову. Але ў той жа Брэсцкай вобласці ёсць "Пінскдрэў" і "Івацэвічыдрэў" – два горадаўтваральныя прадпрыемствы, ад якіх залежыць лёс двух палескіх гарадоў. Лукашэнка толькі адзін раз пабываў у Івацэвічах: зладзіў разнос, змяніў дырэктара – і кропка. Ці можна рэальна мадэрнізаваць гэтыя прадпрыемствы, скарыстаўшыся досведам суседзяў?**

– Бессэнсоўна падымаць канкрэтныя прадпрыемствы, не мяняючы эканамічны асяродак, у якім яны знаходзяцца. Можна выкарыстоўваць досвед той самай Польшчы. Але сітуацыя ў суседзяў лепш не таму, што там станкі больш новыя. Справа ў іншым: у Польшчы ёсць уласнік, якога няма ў нас.

**– А чаму б афіцыйнаму Мінску не выкарыстаць магчымасці "Еўрапейскага дыялогу для мадэрнізацыі Беларусі"?**

– Я спадзяюся, менавіта ў гэты бок і дзьме вецер. Бо як паўстаў "Еўрапейскі дыялог для мадэрнізацыі Беларусі"?

Дзяржаўныя структуры адмовіліся ўдзельнічаць у праграме "Усходняе партнёрства". Еўрасаюз, каб пазбегнуць дысбалансу з непрадстаўленнем беларускіх уладаў, ініцыяваў "дыялог". Менавіта ў яго рамках экспертныя групы выпрацоўваюць рэкамендацыі для тых, хто прымае рашэнні. У тым ліку – і ў эканоміцы.

Але ўлады ўспрынялі і гэту ініцыятыву як ідэалагічнае абслугоўванне апазіцыі. І фактычна самі сябе выключылі з новай перспектыўнай праграмы. Можна шмат добрых папер напісаць, але калі няма рэцыпіента, якому іх можна прапанаваць, усё губляе сэнс.

"Еўрапейскі дыялог для мадэрнізацыі Беларусі" – гэта і ёсць спроба падзяліцца досведам краін, якія ўжо прайшлі стадыю Беларусі. З аднаго боку, гэта вялікі мінус, а з іншага, – каласальная перавага. Мы можам прыходзіць як у супермаркет і выбіраць для нашай эканомікі вострa неабходнае, пазбягаючы негатыўных наступстваў. Бо суседзі ўжо ўсё гэта праходзілі.

Калі з'явіцца рэальныя эканамічныя праекты, выпрацаваныя еўрапейскімі экспертамі, пад іх знойдуцца і сродкі. Грошы знайсці лёгка... А то атрымаецца як з крэдытнай лініяй кітайскага банка Eximbank, пад якую не адзін год шукаюць рэальнае напаўненне – няма годных эканамічных праектаў.

Праграма пераўтварэнняў, выпрацаваная еўрапейскімі экспертамі, цалкам можа знайсці падтрымку і Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця, і сусветных фінансавых структур, у тым ліку – МВФ.

Праблема не ў змесце "дыялогу", а ў дачыненні да яго афіцыйнага Мінска. Ігнараванне гэтай праграмы вядзе да таго, што на справе пакуль яна не працуе.

**Сямён КУТКАВЕЦ, "Свабодныя навіны плюс".**

**Даведка "РГ".** 23 сакавіка 2012 года ініцыятыва "Еўрапейскі дыялог аб мадэрнізацыі з Беларуссю" была ўхваленая Саветам міністраў замежных спраў Еўрасаюза. 29 сакавіка 2012 года ў Бруселі еўракамісар Штэфан Фюле абвясціў аб пачатку "Еўрапейскага дыялогу аб мадэрнізацыі". У красавіку 2013 года ў Еўрапейскім парламенце прайшла канферэнцыя, прысвечаная абмеркаванню "Еўрапейскага дыялогу аб мадэрнізацыі". Тэма канферэнцыі гучала як ацэнка эфектыўнасці ЕДМ пасля года яго функцыянавання. Гэта было першае публічнае мерапрыемства такога ўзроўню з моманту аб'явы ініцыятывы, прысвечанае абмеркаванню самога ЕДМ, яго месца і значэння для адносін паміж Беларуссю і ЕС, яго пераваг і слабасцяў.

АДУКАЦЫЯ

# Выпускныя ў рэгіёне пройдуць 10-12 чэрвеня

**Каля шасці тысяч вучняў сёлета атрымаюць пасведчанні аб базавай і атэстаты аб сярэдняй адукацыі ў нашым рэгіёне.**

**СМАРГОНЬ**. Раённае ўручэнне медалёў адбудзецца 10 чэрвеня ў райвыканкаме. Пра гэта "РГ" паведаміла кіраўнік аддзела выхаваўчай работы і аховы дзяцінства **Элеанора Язерская**. Паводле яе слоў, прэтэндэнтамі на атрыманне медалёў сёлета сталі 17 чалавек, з іх 16 – на залаты медаль і адзін – на сярэбраны.

Таксама 10 чэрвеня адбудуцца ўрачыстыя сходы ў школах. Агульнагарадскога святкавання не плануецца – выпускныя пройдуць у кожнай школе паасобку.

**МЯДЗЕЛ.** У размове з карэспандэнтам "РГ" загадчыца аддзела адукацыі **Таццяна Яфімава** паведаміла, што 11 чэрвеня ў Мядзеле адбудзецца святочны гарадскі выпускны баль. Прадоўжацца мерапрыемствы вечарам, у кожнай установе адукацыі асобна.

Прэтэндэнтаў на атрыманне медалёў 10 чалавек. Сярод іх восем – на залаты і два – на сярэбраны.

**МАЛАДЗЕЧНА.** Маладзечанскі раённы аддзел адукацыі паведамляе, што мерапрыемствы, звязаныя са святкаваннем выпускных, адбудуцца 10 чэрвеня ў гарадскім амфітэатры. Ад 18 да 23 гадзін там адбудзецца ўручэнне медалёў і пройдзе канцэрт гурта "Цягні-штурхай".

Чакаецца, што залатымі медалістамі будуць 29 чалавек і адзін – сярэбраны.

**АСТРАВЕЦ.** 11 чэрвеня ў Астраўцы адбудзецца ўрачыстая сустрэча таленавітай моладзі, пераможцаў алімпіяд і медалістаў са старшынёй райвыканкама.

Прэтэндэнтаў на медаль сёлета 11, і ўсе – на залаты.

**АШМЯНЫ.** Раённы выпускны баль адбудзецца 11 чэрвеня. Святкаванне пройдзе на пляцоўцы каля райвыканкама, на якім выступяць самі выпускнікі, выканаюць аўтарскія песні.

Чакаецца, што залатых медалістаў сёлета будзе 21, яны атрымаюць прэмію ад старшыні райвыканкама.

**ВІЛЕЙКА.** Супрацоўнік Вілейскага аддзела адукацыі ў размове з карэспандэнтам "РГ" паведаміла, што святкаванні, звязаныя са школьнымі выпускнымі, адбудуцца ў горадзе 11 і 12 чэрвеня. У другі дзень а 9 гадзіне пройдзе святочнае шэсце ад цэнтральнай плошчы да плошчы Свабоды праз галоўную вуліцу горада.

Прэтэндэнтамі на атрыманне залатых медалёў сёлета сталі 14 чалавек.

**ВАЛОЖЫН.** 11 чэрвеня на Валожыншчыне плануецца святочнае шэсце і ўрачыстыя мерапрыемствы на галоўнай плошчы горада, куды з'едуцца выпускнікі і медалісты раёна.

Прэтэндэнтаў на залаты медаль – 20 чалавек, адзін – на сярэбраны.

**Яўген КАРОСЦІК.**

| Раён | Выпускнікі 9 класа | Выпускнікі 11 класа |
|---|---|---|
| Маладзечанскі | 1264 | 780 |
| Вілейскі | 513 | 318 |
| Валожынскі | 383 | 283 |
| Мядзельскі | 250 | 258 |
| Смаргонскі | 538 | 356 |
| Ашмянскі | 343 | 237 |
| Астравецкі | 270 | 187 |

УЗНАГАРОДЫ

# Маладыя журналісты "Маладзіка" адзначаны дыпломам

**МАЛАДЗЕЧНА. Газета "Маладзік" цэнтра творчасці дзяцей і моладзі адзначаная дыпломам 3 ступені ў 10-м рэспубліканскім фестывалі школьнай прэсы "Пунсовыя ветразі".**

Цяпер партнёрам фестывалю з'яўляецца Інстытут журналістыкі БДУ, дзе і была арганізавана ўрачыстасць.

Пасля святочнай часткі для будучых журналістаў правялі экскурсію па тэлецэнтры інстытута. Аказваецца, тут не толькі ўдасканальваюць практычныя навыкі студэнты, але і здымаюцца некаторыя вядомыя тэлеперадачы. Дарэчы, каб падрыхтаваць студыю да працы, 20-ці чалавекам патрабуецца не менш за дзве гадзіны.

**Вераніка СОНІЧ, школа журналістыкі "Маладзік".**

■ ГІСТОРЫЯ

# Мінула 150 год ад бітвы пад Уладыкамі

**ВІЛЕЙКА. Бітва пад Уладыкамі падчас паўстання 1863 года адбылася 28 мая.**

У ёй удзельнічалі пяцёра братоў Козелаў-Паклеўскіх, якія нарадзіліся ў маёнтку Вялікі Сэрвач (цяпер вёска Вялікая Сэрвач).

Вілейская суполка Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры разам са стваральнікамі выдання "Волат" да гэтай даты аднавілі помнік паўстанцам 1863 года ва Уладыках. Там жа ўсталявалі інфармацыйны стэнд пра бой пад Уладыкамі.

Сябра вілейскай суполкі "ТАПГіК" **Зміцер Хаценчык** і яе старшыня **Дзяніс Канецкі** ў пачатку мая выдалі кнігу "Падзеі паўстання 1863 года на Вілейшчыне".

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Радавод і герб рэдакцыі перадалі Зміцер ХАЦЕНЧЫК і Дзяніс КАНЕЦКІ.**

**Артыкулы, прысвечаныя 150-годдзю бітвы пад Уладыкамі, "РГ" друкавала ў №№ 4, 5, 8, 11, 13, 15. Іх можна прачытаць на сайце**




**Радавод Козелаў-Паклеўскіх**
(Сэрвацкая лінія)

Герб роду Козелаў-Паклеўскіх

***Ян*** ул.Антокаля каля 1750-? + Ганна Рудамінянская-Дусяцкая (8 сыноў і некалькі дачок)

***Юзаф-Каласанты*** Маршалак вілейскі ул.Княгініна, Сэрвачы, Верачат. каля 1775-? + Н. Радзевіч (6 сыноў і некалькі дачок)

***Ян*** каля 1810 г - ? ул. Сэрвачы + Юзэфа Таленсдарф

***Ян ("Скала")*** 1837-7(19).5.1896 удз. паўстання

***Вінцэнт*** 1838-16(28).5 1863 удз. паўстання загінуў пад Уладыкамі

***Зянон*** 1842(1846?)-1878 удз. паўстання

***Юзаф*** 1845-31.01.1915 удз. паўстання + ***Юлія*** Козел-Паклеўская

***Міхал*** 1847-16(28).5.1863 удз. паўстання загінуў пад Уладыкамі

***Юзаф*** (ул.Сэрвачы) 1885-?

***Вінцэнт*** (ул. Людвінова) 2.10.1889 -1940

***Тадэвуш*** (ул.Кастыкаў) 24.09.1890-1942

■ СВЯТА

# Фестываль "Адна зямля" – трэцяе кола




Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Глобус "Адна зямля" – пераходны сімвал фестывалю, які ад 2006 года перадаецца ад раёна-арганізатара наступнаму. Летась глобус перадалі маладзечанцам віляйчане.**

**МАЛАДЗЕЧНА. Фестываль "Адна зямля" сёлета пройдзе на сцэне маладзечанскага амфітэатра 9 чэрвеня.**

Штогодні рэгіянальны фестываль-конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні "Адна зямля" пройдзе 9 чэрвеня ў маладзечанскім амфітэатры. Гэтым самым пачынаецца трэці цыкл гісторыі самага вядомага ў нашым рэгіёне эстраднага фэсту.

Сёлетняй адметнасцю свята стане не толькі сцэнічная пляцоўка – амфітэатр, пабудаваны да "Дажынак-2011", але і час правядзення. Фактычна, "Адна зямля" будзе трэцім днём фестывалю Нацыянальнай песні і паэзіі "Маладзечна-2013", які пачнецца 7 чэрвеня.

Пра гэта нам расказала дырэктар раённага метадычнага цэнтра народнай творчасці **Ганна Уладыка**.

Фестываль, які ўпершыню прымала Маладзечаншчына ў 1999 годзе ў Чысці, будзе праводзіцца ўжо ў 15-ы раз. Папярэдні прымала суседняя Вілейка.

У мінулы чацвер у Маладзечне прайшло арганізацыйнае пасяджэнне аргкамітэта па правядзенні фэсту, у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі аддзелаў культуры рэгіёна.

У фестывалі прымуць удзел выканаўцы чатырох узроставых груп. Маладым удзельнікам можа быць 9 гадоў, старэйшым – 30.

У межах фестывалю пройдзе і выстава майстроў народных промыслаў. Тым, хто хоча прыняць удзел у выставе, трэба звяртацца ў аддзелы культуры сваіх райвыканкамаў.

## Аб гісторыі фестывалю

Першапачаткова (1999) заснавальнікамі фестывалю сталі аддзелы культуры Маладзечанскага, Валожынскага і Ашмянскага райвыканкамаў і тыднёвік "Рэгіянальная газета". Назву фестываль запазычыў у аднаго з заснавальнікаў, бо "Адна зямля" – слоган "Рэгіянальнай газеты".

Першы раз фестываль адбыўся 10 ліпеня 1999 года на стадыёне пасёлка Чысць у Маладзечанскім раёне. Старшыня журы – дырэктар Маладзечанскага музычнага вучылішча **Рыгор Сарока**.

Ад 2000 года ў фестывалі ўдзельнічаюць прадстаўнікі Вілейшчыны і Смаргоншчыны, а да заснавальнікаў далучыліся аддзелы культуры Вілейскага і Смаргонскага райвыканкамаў.

Ад 2002 года ўдзельнічаюць жыхары Астравеччыны. Заснавальнікам становіцца і аддзел культуры Астравецкага райвыканкама.

У 2004 годзе да заснавальнікаў фестывалю далучаецца аддзел культуры Мядзельскага райвыканкама. Удзельнікамі могуць стаць і жыхары Мядзельскага раёна.

## Месцы правядзення фестывалю

1999 – Маладзечанскі раён, пасёлак Чысць
2000 – Валожын
2001 – Ашмяны
2002 – Астравецкі раён, вёска Рымдзюны
2003 – Смаргонь
2004 – Вілейка
2005 – Мядзел
2006 – Маладзечна
2007 – Валожын
2008 – Мядзел
2009 – Смаргонь
2010 – Ашмяны
2011 – Астравец
2012 – Вілейка

## Гімн фестывалю

Гімн фестывалю напісалі паэтка **Таіса Трафімава** і кампазітарка **Алена Атрашкевіч**. Упершыню выкананы ў 1999 годзе ў Чысці:

***Зямля бацькоў –***
***цудоўная зямля!***
***Пашчасціла і мне тут***
***нарадзіцца.***
***Да скону дзён і зблізку,***
***і здаля***
***Табою, любы край,***
***мне ганарыцца.***
***Адна зямля ў нас з табой,***
***адна,***
***Дае нам сілы***
***чыстая крыніца –***
***Куды б мяне дарога ні вяла***
***Табе хачу я нізка***
***пакланіцца.***
***Мой край рамонкаў,***
***сініх васількоў,***
***Тут плакаць і смяяцца***
***можна ўволю.***
***Тут сустракаюць***
***дарагіх сяброў***
***І песняй звонкаю,***
***і хлебам-соллю!***

## Уладальнікі Гран-пры

1999 – Дзмітры Мінько, Маладзечанскі раён
2000 – Дар'я Урывачанка, Маладзечанскі раён
2001 – Людміла Сінкевіч, Ашмянскі раён
2002 – Казімір Таўстыка, Вілейскі раён
2003 – Алеся Супрановіч, Вілейскі раён
2004 – Наталля Салава, Вілейскі раён
2005 – Алеся Кульша, Маладзечанскі раён
2006 – Аляксандр Салаўёў, Маладзечанскі раён
2007 – Віктар Выбарнаў, Маладзечанскі раён
2008 – Вікторыя Ількевіч, Вілейскі раён
2009 – Дзяніс Пацэвіч, Смаргонскі раён
2010 – Вольга Ільіч, Маладзечанскі раён
2011 – Анастасія Апанасенка, Маладзечанскі раён
2012 – Артур Міхайлаў, Маладзечанскі раён

## Прыз глядацкіх сімпатый

Прыз глядацкіх сімпатый – спецыяльны прыз, заснаваны "Рэгіянальнай газетай". Яго ўладальнікамі станавіліся:

1999 – Юлія Іванчык, Маладзечанскі раён
2000 – Алеся Дзяржавец, Вілейскі раён
2001 – Іван Валадзько, Ашмянскі раён
2002 – Сяргей Сяўко, Астравецкі раён
2003 – Святлана Пушкарова, Валожынскі раён
2004 – Кацярына Цыгельнікава, Мядзельскі раён
2005 – Валеры Вязевіч, Мядзельскі раён
2006 – Мікалай Разановіч, Смаргонскі раён
2007 – Васіль Каспяровіч, Ашмянскі раён
2008 – Генадзь Чарняўскі, Валожынскі раён
2009 – Таццяна Анушэўская, Валожынскі раён
2010 – Аляксандр Жукоўскі, Ашмянскі раён
2011 – Вольга Касцюкевіч, Смаргонскі раён
2012 – Алеся Сяргейчык, Валожынскі раён

**Даведка "РГ".** "Адна зямля" – рэгіянальны фестываль-конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні, які праводзіцца па чарзе ў адным з раёнаў Беларускага Павілля і на Валожыншчыне: Маладзечанскім, Вілейскім, Мядзельскім, Валожынскім Мінскай вобласці і Смаргонскім, Ашмянскім, Астравецкім Гродзенскай вобласці.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

■ КАЛЯНДАР

**31 мая.** 90 гадоў з часу заснавання Беларускага навуковага таварыства. Існавала ў Вільні ў 1923–1940 гадах.

***

**1 чэрвеня.** Міжнародны дзень абароны дзяцей.

***

**80 гадоў** з дня заснавання (1933) Беларускага інстытута народнай гаспадаркі (з 1991 г. – Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт). Быў заснаваны на базе планава-эканамічнага, фінансава-эканамічнага і каапература тыўнага інстытутаў.

***

**4-6 чэрвеня.** 20 гадоў назад (1993) у Маладзечне адбыўся першы рэспубліканскі фестываль беларускай песні і паэзіі.

***

**5 чэрвеня.** 70 гадоў з дня выхаду (1923) заходнебеларускай газеты "Вольны сцяг" – органа Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі. Выдавалася на беларускай мове ў Вільні да кастрычніка 1923 года. Рэдактар-выдавец І.Лагіновіч (П.Корчык). З-за праследаванняў польскімі ўладамі выходзіла пад рознымі назвамі: "Наш сцяг", "Сцяг народа", "Вольны сцяг" і інш. Газета паведамляла пра жыццё ў БССР, культурна-грамадскі рух беларусаў у Латвіі, Літве, Чэхаславакіі. Друкаваліся мастацкія творы М.Гарэцкага, М.Чарота, публіцыстычныя артыкулы І.Лагіновіча, С.Рак-Міхайлоўскага. Асобныя матэрыялы былі прысвечаныя рукапіснай спадчыне М. Багдановіча.

***

Дзень прападобнай Ефрасінні Полацкай. Хадзілі пешшу ў Полацк, каб памаліцца ў гэты дзень.

***



**6 чэрвеня.** 80 гадоў з дня нараджэння Збігнева Жакевіча (1933), польскага пісьменніка і літаратурнага дзеяча, лаўрэата шматлікіх прэмій. Нарадзіўся ў Вільні. У ваколіцах Маладзечна і Смаргоні правёў частку нялёгкага пасляваеннага дзяцінства. Збігнеў хадзіў у беларускую школу, дзе мове яго вучыў паэт Юльян Сергіевіч. У аўтабіяграфічнай кнізе "Воўчыя лугі" ён стварыў яго прывабны вобраз. Яго зборнік-эсэ "Людзі і краявіды" – расказ пра паездку на Беларусь. А ў кнізе "Расія, Расія..." ёсць заключны раздзел з назвай "Мая Беларусь" пра Ашмяншчыну, Маладзечаншчыну, пра Янку Брыля.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

## ПРАДАМ ІНШАЕ

• Сукенка для выпускнога вечара, доўгая, малочнага колеру (на шнуроўцы), 42-46 памер. Т. (8-029) 6122691.

• Шчанюкі ёркшэрскага тэр'ера, нарадзіліся 29.04.2013 г. (1 дзяўчынка, 2 хлапчукі), актыўныя, любяць гуляць. Пакет дакументаў. Т. (8-029) 6128016, Марына.

• Шчанюкі нямецкай аўчаркі (сучкі), нарадзіліся 5 красавіка 2013 г., без радаслоўнай, нядорага. Т. (8-029) 7006777.

## КУПЛЮ

**Будматэрыялы, сантэхніку**

• Батарэю чыгунную, б/у. Т. (8-029) 8789740.*

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• Вядучы мост, бартавыя, гуму да трактара МТЗ-82, Мінскі р-н. Т. (8-029) 3343895.*

• Экскаватар ЮМЗ ЭО 26-21. Т. (8-029) 6434876.*

**Музінструменты**

• Футарал для цэлай скрыпкі. Т. (8-029) 6927353.*

**Жывёлу**

• Каня, авечак, буйную рагатую жывёлу і іншыя віды дамашняй жывёлы, дорага. ІП Кеўра А.С. УНП 590818581. Т. (8-044) 4846590, (8-029) 3939256.*

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ ЛЮБЫ! МАНЕТУ, МЕДАЛЬ, СТАТУЭТКУ. Т. (8-029) 7764214.***

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 765542, (8-029) 6564854.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ. ДОРАГА!** Карціны, іконы, манеты, рублі СССР, статуэткі СССР, медалі, знакі, ордэны і інш. Т. МТС (8-029) 5586238.*

• Манеты, нумізматычную калекцыю. Выезд па рэгіёне. Т. (8-029) 5531556.*

• **СТАРАЖЫТНЫЯ** карціны, іконы, манеты і іншае. Т. (8-029) 8719950.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Балон кіслародны, вуглекіслотны, б/у, Мінскі р-н. Т. (8-029) 2833244.*

• Бульбу, 2 т., Мінскі р-н. Т. (8-029) 8775982.*

## ЗГУБЛЕНА

• Згублены пашпарт на імя Валасковіча Сяргея Яўгенавіча. Таго, хто знайшоў, просьба вярнуць за ўзнагароджанне. Т. Вэлком (8-029) 3482257, Лайф (8-025) 9142120.

• Згублены нумар 13-37 ІС-5. Таго, хто знайшоў, просім патэлефанаваць за ўзнагароджанне. Т. МТС (8-029) 2609421.

## ІНШАЕ

• Аддам аўчарку у добрыя рукі (сука, 7 год). Т. (8-033) 3026607.

• Патрабуецца рэгістрацыя (1 чалавек) у Маладзечанскім р-не і г.Маладзечна. Т. (8-029) 1055970.

• Шукаю спадарожнікаў у Хмяльніцкі, Беласток, Крым, Адэсу. Т. (8-033) 6344827, (8-029) 9491773.*

## ШУКАЮ РАБОТУ

• Аддзелачнік шукае работу, досвед. Т. МТС 7081195.

• Зваршчык шукае падпрацоўку. Т. (8-033) 6677326.*

• Муляр шукае працу, вопыт: кладка бесера, клінкера, abліцоўванне цэглай, платы, перагародкі, падмурак. Т. (8-029) 7695006.*

• Цясляр-сталяр шукае падпрацоўку: ламінат, лесвіцы, вагонка, гіпсакардон, блок-хаўс, сайдынг, падлога. Т. (8-029) 2620228, (8-029) 9382802.*

• Чыстка і афарбоўка шыферу. Т. (8-029) 2620228, (8-029) 9382802.*

# ПРАЦА

## ПАТРАБУЮЦЦА

• Арганізацыі «Энергастымул», якая займаецца вытворчасцю электратэхнічнага абсталявання ў г.Вілейка, патрабуецца начальнік вытворчасці (стаж кіруючай работы ад 5 гадоў), эканаміст і электрамантажнікі. ТАА «Энергастымул». УНП 691171078. Тэл. у Мінску (8-017) 3462370, Аксана, Сяргей Віктаравіч.*

• Вілейскае райспажыўтаварыства запрашае на працу кладаўшчыка і грузчыкаў гандлёвай базы, штатных і пазаштатных нарыхтоўшчыкаў на гэты нарыхтоўчы перыяд. Маем магчымасць прыцягнення грузавога аўтатранспарту (аўтафургоны і бартавыя) на ўмовах арэнды. УНП 600014948. Т. (8-01771) 54348, (8-01771) 54640.

• Дрэваапрацоўчай вытворчасці патрабуюцца рамшчыкі, падсобныя рабочыя. ПВУП "Соркас". УНП 691401972. Т. (8-029) 5546082.

• СТА на пастаянную работу патрабуецца слесар па рамонце аўтамабіляў, зарплата здзельная. ПП "ГеаСТА". УНП 691294992. Т. (8-029) 3149460, (8-029) 7572426.*



ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

## У Вілейцы прыбавілася скульптур

**ВІЛЕЙКА. Пленэр скульптараў праходзіў з 16 па 25 мая на Вілейшчыне. У ім удзельнічалі шасцёра студэнтаў аддзялення скульптуры Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.**

Яны рабілі скульптуры з валуноў. Адна з іх створаная з каменя, які знаходзіўся на "Вілляніных хутары". Маладыя скульптары зрабілі на валуне барэльеф – вобраз Вілляны з падання пра з'яўленне ракі Вілія.

Ля ЗАГСа з'явілася пара галубкоў з белага мармуру з беларускім народным арнаментам шчаслівай сям'і. Прытуліліся яны на камені.

Трэцяя скульптура яшчэ ў стадыі стварэння, яе даробяць пазней. Гэта будзе цэлая сюжэтная кампазіцыя. Яна прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння вядомага мастака-авангардыста Уладзіслава Стрэмінскага, лёс якога звязаны з Вілейкай: за польскім часам ён быў выкладчыкам у гімназіі і галоўным мастаком горада. Гэту скульптуру плануецца ўстанавіць ля кінатэатра.

Увасобіць ідэю праўдзення пленэру дапамог ураджэнец Вілейшчыны, загадчык кафедры скульптуры Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў **Уладзімір Слабодчыкаў**, паведаміў дырэктар Вілейскага краязнаўчага музея **Сяргей Ганчар**.

**Аддзел інфармацыі.**

ПАДАРУНАК

## Віталь Раковіч падарыў усе здымкі з выставы

**ВІЛЕЙКА. У выставачнай зале імя Сілівановіча прайшла фотавыстава "Вілейшчына на фотаздымках Віталя Раковіча".**

Старшыня народнага фотаклуба "Мінск", удзельнік шматлікіх выстаў прадставіў на ёй фатаграфіі краявідаў і архітэктурных помнікаў Вілейшчыны.

Апроч выставачнай залы, частка фатаграфій дэманстравалася ў навучальных установах Вілейкі і Куранецкай школе. Там жа паказвалі і відэафільм брата Віталя – Аляксея Раковіча "Беларускія нацыянальныя стравы".

Па завяршэнні выставы ўсе 63 здымкі засталіся ў краязнаўчым музеі – Віталь Раковіч падарыў іх установе.

– Гэта шыкоўны падарунак, – кажа старшы навуковы супрацоўнік музея **Вольга Коласава**. – Здымкі можна выкарыстоўваць як ілюстрацыйны і наглядны матэрыял.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

КОНКУРСЫ

## "Маладзік" распачынае "Зорны сезон"

**МАЛАДЗЕЧНА. Раённы конкурс дзіцячай творчасці "Зорны сезон" прайшоў у Маладзечне 25 мая.**

Сёлета для ўдзелу ў ім запрасілі вучняў сельскіх школ.

Зала не стрымлівала эмоцый, калі выхаванцы з Радашкавіцкай школы-інтэрната танцавалі хіп-хоп. Пацешылі публіку і малодшыя ўдзельнікі – "паварнчукі" з Выверау і "сонечныя зайчыкі" з "Маладзіка". **Мікіта Станкевіч** (Хажоўская СШ) прадэманстраваў віртуознае валоданне акардэонам і ўдастоіўся звання "Містэр талент". А пераможцам у намінацыі "лепшы інструментальны нумар" стаў вучань Турэц-Баярскай школы **Ягор Страшынскі** са сваёй сяброўкай-гітарай.

Галоўным трыўмфатарам "Зорнага сезона" сталі прадстаўнікі Палачанскай сярэдняй школы з клаўнадай "Вараўба". Калектыў быў ганараваны Гран-пры і атрымаў прыз сімпатый гледачоў.

**Марта СЕМЯНОВІЧ,**
**школа журналістыкі "Маладзік".**

## Выбралі лепшую шматдзетную сям'ю

**МЯДЗЕЛ. У гарадскім Доме культуры 24 мая прайшоў раённы конкурс шматдзетных сем'яў. Удзельнічалі ў ім восем шматдзетных сем'яў з розных куткоў раёна.**

Яны паказвалі свае здольнасці ў конкурсах "Візітная картка", "Кулінарны шэдэўр", "Умелыя рукі", "Ваша слова, эрудыты".

Перамогу ў раённым конкурсе атрымала сям'я **Пальцавых** з г. п. Крывічы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Што агульнага ў беларусаў і японцаў?

**МАЛАДЗЕЧНА. Пра тое, як беларусу жывецца ў далёкай Японіі і чаму японцы з'ядаюць дзясятую частку ўсіх рыбных запасаў Зямлі, расказаў маладзечанцам экс-пасол Беларусі ў Японіі, колішні жыхар Маладзечна Пётр Краўчанка.**

Сустрэча прайшла ў чацвер, 23 мая, у цэнтральнай бібліятэцы імя Максіма Багдановіча. Экспасол падзяліўся сваімі ўражаннямі і ўспамінамі – цягам чатырох гадоў спадар Пётр жыў у Японіі.

## У Японіі ўсё навыварат

Усе мы ведаем, што японскае – гэта заўсёды нетрафарэтнае і нестандартнае. Заўважыць гэта можна і ў бытавых дробязях.

– Нават замкі на дзвярах японцы зачыняюць справа налева, а не як мы, – заўважае спадар Пётр. – У невялікіх гарадах увогуле не прынята зачыняць дзверы на замок. А ў мясцовых рэстаранах ніколі не даюць чаявых.

Краіна размешчаная на 6800 асобных астравах. Большасць жыхароў жыве на чатырох з іх. Па тэрыторыі Японія ў 1,5 раза большая за Беларусь, а па колькасці насельніцтва – у 14 разоў. Паміж нашымі краінамі 9 тысяч кіламетраў і 6 гадзін розніцы ў часе.

– У Японіі вельмі складаны клімат, – дзеліцца ўспамінамі экс-пасол. – Нават летам там цямнее а 17 гадзіне. Ёсць сезон дажджоў: залевы ідуць некалькі тыдняў запар без перапынку. Спёка там бывае да 40 градусаў пры стопрацэнтнай вільготнасці. Не ўсе людзі змогуць жыць у такім клімаце.

**Таму я ўпэўнены, што кожны чалавек павінны жыць пад тымі зоркамі, пад якімі нарадзіўся.**

Пражыўшы ў Японіі некалькі гадоў, я магу ўпэўнена сказаць: якасць жылля ў маладзечанцаў непараўнальна высокая, – заўважыў спадар Пётр. – Японцы могуць рабіць неверагодную тэхніку, аўтамабілі, добра харчавацца. Але ж жывуць яны збольшага ў кепскіх умовах – на чалавека прыходзіцца каля 3-4 квадратных метраў жылля, да таго ж яно дрэннай якасці. Якаснае жыццё будаваць няма сэнсу: там вельмі высокая верагоднасць землятрусаў.

Японцы могуць мяняць сваё веравызнанне некалькі разоў у жыцці. Самыя распаўсюджаныя рэлігіі – сінтаізм і будызм.

– Часта аднаго і таго ж чалавека хрысцяць у традыцыях сінтаізму, а хаваюць ужо па традыцыях будызму, – распавядае спадар Пётр. – Проста таму, што так атрымліваецца танней.

Японцы вядомыя і даўгалецццем: сярэдні ўзрост мужчыны там 79 гадоў, жанчыны – 87. У першую чаргу гэта звязана з разнастайнасцю харчавання. Жыхары Японіі з'ядаюць амаль 14% усіх рыбных запасаў Зямлі! У іх рацыёне каля 400 відаў рыбы.

– Амаль уся ежа ў Японіі падаецца на стол без тэрмаапрацоўкі, – кажа Пётр Краўчанка. – Нам добра вядома такая страва, як сусі. Мы называем яе "сушы", але ў японскай транскрыпцыі правільна менавіта "сусі".

## Японцы патрыятычныя, беларусы – творчыя

Высветлілася, што беларусы і японцы маюць шмат агульнага. Да таго ж нам ёсць чым падзяліцца адно з адным.

– Японскі патрыятызм не мае межаў, – заўважыў Пётр Краўчанка. – Існуе верагоднасць таго, што ў будучыні астравы Японіі знікнуць у водах акіяна.

**Калі ў японцаў запыталіся, што яны будуць рабіць, калі краіна пачне знікаць, 99% апытаных адказалі – здзейсню самазабойства.**

Думкі з'ехаць у іншую краіну ў іх не ўзнікае, бо японцы не могуць жыць без Японіі. Такому патрыятызму беларусам варта павучыцца.

Да таго ў японскіх традыцыях працаваць на адным прадпрыемстве ўсё жыццё. Таму маладыя японцы вельмі пільна выбіраюць месца працы. Але за гэта працаўнікі маюць свае бонусы: пры выхаду на пенсію кожны чалавек атрымлівае калі 200 тысяч даляраў (сума залежыць ад канкрэтнай фірмы).

Таму японскіх пенсіянераў-турыстаў можна пабачыць ва ўсім свеце. У пажылым узросце яны могуць сабе дазволіць пабачыць свет.

Самім жа японцам не зашкодзіла б пазычыць у беларусаў крыху творчага, імправізацыйнага падыходу да жыцця. Доўгая самаізаляцыя краіны і прытрымліванне традыцый прывялі да таго, што японцы знаходзяцца пад уплывам стандартаў і не выходзяць за іх межы.

У японцаў калектыўнае цэніцца вышэй за індывідуальнае.

– Калі японец будзе прадстаўляць сябе новым сябрам, то спачатку скажа, што ён рабочы нейкай фірмы, а ўжо пасля назаве сваё імя і прозвішча, – заўважае Пётр Краўчанка.



Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

**Экс-пасол Беларусі ў Японіі Пётр Краўчанка падзяліўся з маладзечанцамі ўспамінамі са свайго японскага жыцця.**

## Астравеччына доўга не ведала свайго героя

Прыгадаў Пётр Краўчанка і беларусаў, якія сваёй працай праклалі першыя культурныя масціці між Беларуссю і Японіяй.

Наш зямляк, ураджэнец Астравеччыны **Восіп Гашкевіч**, пабудаваў у Японіі царкву і шпіталь для дапамогі хворым на туберкулёз.

Апошнія гады свайго жыцця Гашкевіч правёў у вёсцы Малі Астравецкага раёна, дзе набыў маёнтак. Там ён займаўся вырошчваннем рысу. У Вільні ж паспеў выдаць кнігу "Пра карані японскай мовы".

Яго асобу памятаюць і шануюць у Японіі. У дзень нараджэння Восіпа Гашкевіча праваслаўныя японцы збіраюцца разам.

– У 60-х гадах мінулага стагоддзя першыя японскія турысты прыехалі на Астравеччыну, каб наведаць месца пахавання Восіпа Гашкевіча, – распавядае Пётр Краўчанка. – Але з мясцовых жыхароў ніхто не ведаў, хто такі Гашкевіч. Гасцей павезлі на віленскія могілкі, дзе паказалі магілу сына Восіпа Гашкевіча. Давялося хлусіць, што там пахаваны сам навуковец, бо іншага выйсця не было.

Ужо пазней вызначылі, што Гашкевіч быў пахаваны ля сцяны праваслаўнага храма ў Астраўцы. Але сапраўднай яго магілы няма.

У 1994 годзе ў Астраўцы з'явіўся бюст Восіпа Гашкевіча. Яго аўтарам стаў скульптар **Валяр'ян Янушкевіч**, які таксама працаваў над помнікам Міхалу Клеафасу Агінскаму ў Маладзечне.

## Вывучыць японскую мову за пару гадоў нерэальна

Прысутных на сустрэчы слухачоў цікавіла, ці ведае спадар Пётр японскую мову.

– Вучыць гэту мову трэба сапраўды ўсё жыццё, – адказаў экс-пасол. – У ёй больш за 40 тысяч іерогліфаў. Мясцовыя школьнікі часам не ў стане нават у канцы школьнага навучання прачытаць звычайную японскую газету. Таму для таго, каб вывучыць японскую, трэба сапраўды прысвяціць гэтаму жыццё.

**Даведка "РГ". Пётр Кузьміч Краўчанка** – беларускі палітык, дыпламат і гісторык. Першы міністр замежных спраў Беларусі (да 1994 года). З 1998 па 2002 – надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у Японіі. Аўтар чатырох кніг, прысвечаных міжнародным стасункам Беларусі, а таксама асобе Міхала Клеафаса Агінскага.



**Аляксандра ПАРАХНЯ**
E-mail: alesia.ptushka@gmail.com

## Прывітанне з Паднябеснай

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні ў маладзечанскім Палацы культуры адбыўся канцэрт дзеячаў мастацтва Кітая ў межах тыдня правінцыі Гуандун КНР.**

Дзякуючы гэтаму канцэрту маладзечанцы даведаліся, што такое жоўшу (мастацтва валодання целам) і дыябала (цацка для жангліравання). Пачулі гучанне піпы, эрху і народных кітайскіх песень, уключаных ЮНЭСКА ў спіс 25 лепшых народных песень свету. І, вядома ж, не абышлося без дракона! Але аб усім падрабязней.

Усім вядома, што ўшу з'яўляецца неад'емнай часткай кітайскай культуры, але тое, што рабілі артысты на сцэне, можна назваць неверагодным! Лёгкія, грацыёзныя рухі, трукі, падтрымкі, хуткасць, з якой выконваліся элементы, неверагодныя прыёмы, у тым ліку і жангліраванне цацкай дыябала, проста не давалі паверыць у тое, што чалавек на такое здольны. Артысты прадэманстравалі жоўшу, інакш кажучы, мастацтва валодання целам.

Ці чулі вы калі-небудзь гучанне піпы? Я думаю, што так. Гэта той музычны інструмент, без гучання якога не абыходзіцца ніводны кітайскі мастацкі фільм, ніводная праграма пра Кітай. Але пачуць яе ўжывую, тым больш, калі ў гэты момант на сцэне разгортваецца неверагоднае відовішча – гімнаст пад музыку выконвае пластычныя рухі з мячом, – гэтых уражанняў хопіць надоўга.

Перад пачаткам канцэрта гледачам прапанавалі праграмкі з апісаннем нумара, які будзе выконвацца. І вось у праграме напісана: два артысты, апранутыя на сябе "шкуру" дракона, рухаюцца ў такт музыцы і выконваюць танец дракона. Адзін артыст адказвае за рухі галавы, другі – за рух хваста. І ўсё.

Але, калі пачаўся гэты нумар, зала заціхла. Вялізная пачвара выпаўзла на сцэну пад традыцыйную кітайскую музыку. Рухі заварожвалі, ад чаго складалася поўнае адчуванне таго, што гэта сапраўдны дракон.

Што адбывалася на сцэне ў гэты вечар, словамі, як не імкніся, перадаць немагчыма. Хочацца сказаць толькі тое, што пасля кожнага нумара зала не проста апладзіравала, а праводзіла артыстаў са сцэны сапраўднымі авацыямі. Рэдка якім зоркам удаецца так павярнуць да сябе гледачоў.

І яшчэ маленькая парада: калі ўбачыце афішы пра тое, што адбудзецца канцэрт майстроў мастацтва Кітая, абавязкова адкладзіце справы і ідзіце на канцэрт. Апынуцца ў казачным, чароўным Кітаі лягчэй, чым вам здаецца.

**Наталля ТУР.**




Фота Наталлі ТУР.

**Цыркавая акрабатыка жоушу ў Маладзечне.**

# “Гэта мая Саша, а гэта мая Віка”, – так сябруюць дзеці ў садку





Фота Зоі ХРЫЦКАЙ.

**Разам з выхавальніцай Таццянай Дашкевіч дзеці едуць у аўтобусіку. Кіроўца – Іван Вінаградаў. На першым сядзенні – Глеб Сцебурака і Анастасія Турчыновіч, за імі – Максім Праўлоцкі і Паліна Герасімюк, Радзівон Пусько і Аляксандра Дурко, Дар’я Карэўка і Максім Грачыха, Сафія Матусевіч і Вікторыя Дзяркач, Аліна Дашкевіч і Надзея Цыбульская.**

**МАЛАДЗЕЧНА. “А вы ведаеце што? – спытала ў нас маленькая Даша. – А я сёння паеду на мора”. Такое пытанне дзяўчынка задавала нам разоў 30, пакуль мы былі ў садку №5, каб паглядзець, чаму навучыліся дзеці за першы год.**

– Шмат дзяцей у пачатку навучальнага года слабавата гаварылі, – кажа выхавальніца **Таццяна Дашкевіч**. Але з цягам часу з дапамогай дыдактычных гульняў, вершыкаў дзеці сталі размаўляць лепш.

Таксама ў садку дзяцей загартоўваюць. Пасля сну яны крыху ходзяць басаножы. Ёсць у групе спецыяльныя вусцілкі з гузікамі, каб памасажыраваць ступні ног.

– Дзеці за год сталі больш самастойнымі, – падсумоўвае спадарыня Таццяна. – Яны ўжо самі рассцілаюць ложкі.

Некаторыя дзеці імкнуцца прыбіраць за сабой талеркі і складаць палатняныя падстаўкі для талерак. У многім ім дапамагае памочніца выхавальніцы **Марына Лазар**.

Характары ў дзяцей вельмі розныя. Хлопчыкі больш спакойныя, а вось дзяўчынкі весела бегаюць па пакоі. Некаторыя дзеці любяць пагаварыць і зусім не саромеюцца, а іншыя хвалююцца, убачыўшы незнаёмага чалавека, і цярэбяць сваю сукеначку ці штонікі.

Калі дзеткі кладуцца спаць, выхавальніца чытае ім казкі. Як расказалі самі дзеці, больш за ўсё ім падабаецца казка: “Хто сказаў мяў?”

– Сябруюць яны папарознаму, – кажа выхавальніца, – ёсць дзве дзяўчынкі, якія толькі ўдзвюх. Яны, вядома, могуць і пасварыцца паміж сабой, але потым кажуць так: “Гэта мая Саша, а гэта мая Віка”.

А калі мы спыталі ў маленькага хлопчыка Глеба, хто яго лепшы сябар, ён адказаў: “Мая мама”.

Выхавальніца расказвае, што некаторыя дзеці спаць кладуцца з цяжкасцю, а іншыя – адразу засынаюць. І потым іх не відаць і не чуваць.

– Мы навучыліся гуляць, – адказваюць хорам дзеці на пытанне, чаму навучыліся за год.

І, як кажуць псіхолагі, гэта самае важная задача для дашкольнікаў. Бо калі дзіця не навучыцца гуляць, яму будзе вельмі цяжка выконваць розныя сацыяльныя ролі.

Самая іх любімая гульня – курачка-чубатка. Правілы гульні такія: выбіраюць адно дзіця, якое выконвае ролю кошкі, якая ловіць куранят.

Але дзеці не разбягаюцца ў розныя бакі, а злятаюцца ў адзін куток, пры гэтым звонка пішчаць і смяюцца.

Дзяцей вучаць гуляць і ў дыдактычныя гульні. Яны навучыліся адрозніваць колер, спяваць песенькі і расказваць вершыкі. Самая іх любімая песня – гэта песня “Матуля, мілая”. Яны са стульчыкаў робяць паравозік, садзяцца ў яго і пачынаюць хорам спяваць гэтую песеньку.

– Бывае, нехта адзін возьме нейкую цацку, напрыклад, руль, тады ён трэба адразу ўсім, – кажа выхавальніца Таццяна. – І тут пачынаецца спрэчка. Я забіраю гэтую цацку сабе і кажу: “Я сама буду гуляць з ёй!” А потым тлумачу дзецям, што трэба дзяліцца цацкай і гуляць з ёй па чарзе. Яны прыслухоўваюцца, я аддаю цацку, і дзеці спрабуюць яе дзяліць.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**



## Намалюй і атрымай падарунак

Намалюй, што ты будзеш рабіць летам, дашлі малюнак у рэдакцыю да 4 чэрвеня – і атрымай падарунак ад бобрыка Рэгіяна. Адрас рэдакцыі: *222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.*



**ЗАДАННІ**

## Графічны дыктант

Паспрабуйце пазаймацца з дзецьмі графічным дыктантам. Так называецца маляванне па клетачках, калі вы кажаце па чарзе, якую клетку замалёўваць, а ў выніку атрымліваецца карцінка.

Такія практыкаванні дапамагаюць падрыхтавацца да пісьма, вучаць арыентавацца на аркушы паперы.

Спачатку няхай дзіця малюе па ўжо гатовай карцінцы, а пад дыктоўку абводзіць патрэбныя клетачкі.

Можна паспрабаваць і па-іншаму: паказаць ужо гатовы малюнак і папрасіць паўтарыць яго на аркушы ў буйную клетачку.

Што атрымалася? Што яшчэ трэба дамаляваць (вочка).

Адступіце дзве клетачкі ўправа і дзевяць – зверху. Пастаўце кропку і пачынайце маляваць.

Справа паказана, якой павінна атрымацца карцінка.

Ніжэй схема, паводле якой дыктуюць: адну клетачку ўправа, адну ўверх, і гэтак далей.



Фота kindergenii.ru.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 → | 2 → | 2 → | 1 ← | 1 ← | 2 ← | 2 ← |
| 1 ↑ | 2 ↑ | 1 ↑ | 2 ↓ | 1 ↑ | 1 ↓ | 1 ↑ |
| 1 → | 9 → | 2 → | 1 → | 1 ← | 2 ← | 2 ← |
| 1 ↑ | 2 ↓ | 2 ↑ | 1 ↓ | 1 ↑ | 1 ↓ | 1 ↑ |
| 1 → | 2 → | 2 → | 1 → | 2 ← | 8 ← | 1 ← |
| 1 ↑ | 1 ↓ | 3 ↓ | 2 ↓ | 1 ↓ | 1 ↑ | 2 ↑ |
| 2 → | 2 → | 1 ← | 2 ← | 1 ← | 2 ← | |
| 1 ↑ | 2 ↓ | 1 ↓ | 1 ↑ | 1 ↓ | 1 ↑ | |

Фота kindergenii.ru.

ВАКОЛ СПОРТУ

# Трэнер па каноэ вывучыў беларускую мову з дапамогай “РГ”

## Сяргея Пучкіна віншуюць з 60-годдзем яго сябры

**ВІЛЕЙКА. Ён змяніў месца жыхарства з Пермскай вобласці на Вілейшчыну, прафесію – з настаўніка на трэнера па байдарках і каноэ. Дзякуючы яму на Вілейскім вадасховішчы цяпер ёсць база для трэніровак.**

А пачыналася ўсё ў 1981 годзе, калі Сяргей Пучкін прыехаў у Вілейку. Вось ужо 33 гады яго жыццёвы шлях звязаны з нашым рэгіёнам і яго жыхарамі. У Беларусі ён паспеў павучыцца ў жодзінскай школе, на геаграфічным факультэце БДУ, а пасля папрацаваць настаўнікам у Смалявіцкім і Любанскім раёнах.

Жывучы і працуючы на Вілейшчыне ўжо тры дзесяцігоддзі, Сяргей падрыхтаваў 30 кандыдатаў у майстры спорту і трох майстроў спорту. Яго выхаванцы неаднаразова прадстаўлялі горад на ўсебеларускіх спаборніцтвах, а Беларусь – на міжнародных.

Выхаванцы з цеплынёй успамінаюць пра свайго першага трэнера, а таксама пра базу для трэніровак на Вілейскім вадасховішчы. Яе Сяргей Пучкін пабудаваў практычна на ўласным энтузіязме, правёўшы рэканструкцыю пустога будынка. База не пустуе і цяпер.

Любоў да спартыўнага ладу жыцця ён перадаў і сваім дзецям. Сын стаў майстрам спорту па веславанні, а дачка – віцэ-чэмпіёнам Еўропы па каратэ.

Акрамя спорту, ёсць у спадара Сяргея і яшчэ адно захапленне – турызм і бардаўская песня. Ёсць і свае любімыя мясціны: гара Бялуха на Алтаі, рака Сэрвач, мястэчка Гальшаны.

У храмах Гальшанаў і Барунаў Сяргей Пучкін праводзіў вышынныя работы, бо мае неабходную альпінісцкую тэхніку і навыкі. Да таго ж спадар Сяргей – выдатны экскурсавод. Свае экскурсіі ён ладзіць на беларускай мове, хаця нарадзіўся ў далёкім Шукшыне Пермскай вобласці Расіі.

Сяргей прызнаецца, што любоў да Беларусі і беларускай мовы яму перадалася ад лепшага сябра, украінца Віталя Кастэнкі, а таксама ад любімай “Рэгіянальнай газеты”.

Жадаем Сяргею Пучкіну новых паходаў і песняў, здароўя, жадаем выхаваць унукаў сапраўднымі патрыётамі і абавязкова дачакацца праўнукаў!

**Сябры па спорце і турызме.**



Фота забяспечана Міхаілам МІХАЛЕВІЧАМ.

Сяргей Пучкін у захапленні ад прыроды Беларусі.

ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

## “Маладзечна” – “Партызан” – першая нічыя сезона

**МАЛАДЗЕЧНА. Другі дамашні матч сёлетняга сезона, які прайшоў у пятніцу, 24 мая, сабраў на трыбунах гарадскога стадыёна некалькі соцень футбольных аматараў.**

Магчымасць адкрыць лік у матчы з’явілася ў маладзечанцаў ужо на чацвертай хвіліне гульні: галкіпер “Партызана” выйшаў з плошчы варот, фактычна пакінуўшы іх пустымі. Але мяч у іх сетку так і не трапіў.

Маладзечанцы змаглі вырвацца наперад на 33-й хвіліне: аўтарам гола стаў **Сяргей Парфенчык.**

У другім тайме госці пачалі больш актыўна праходзіць у зону абароны бела-зялёных. Як вынік: лічбы на табло зраўняліся на 62-й хвіліне. Лік 1:1 захаваўся да канца матча.

Напружаны характар матча адчуваўся не толькі на трыбунах, дзе сабраўся не толькі поўны фанацкі сектар клуба “Маладзечна”, але і некалькі дзясяткаў заўзятараў “Партызана”.

У выніку нічыёй маладзечанцы атрымалі яшчэ адно ачко ў сваю скарбонку.

Пасля матча на пытанні карэспандэнтаў “РГ” адказаў галоўны трэнер каманды “Маладзечна” **Дзяніс Мятліцкі**.

**– Якія ўражанні засталіся ў вас ад матча?**

– Сама гульня каманды мне не спадабалася. Я чакаў ад нашых футбалістаў больш жорсткай гульні. Мінская каманда досыць маладая, таму пры больш жорсткай манеры гульні ў нас атрымалася б перахапіць ініцыятыву.

**– Сёння каманда выйшла на поле без капітана. Чаму?**

– **Віталь Макрыцкі** не змог удзельнічаць у матчы: у яго ёсць асноўная праца, якая таксама патрабуе часу. Вядома, адсутнасць капітана адбілася на гульні. Нам Віталя вельмі не хапала, ён добра адгуляў папярэднія матчы. Затое ўпершыню на полі з’явіўся **Андрэй Шаблінскі**. Пабачым яшчэ, ці застанецца ён у саставе.

**– Ці можаце вы сказаць, што футбалісты ўжо паспелі згуляцца?**

– Пакуль што не. Гэта было вельмі складана зрабіць з-за траўмаў і хваробаў. На жаль, састаў каманды даводзіцца тусаваць з гульні ў гульню, таму для таго, каб згуляцца, не было ўмоў. Напрыклад, у сённяшнім матчы з-за ангіны не змог прыехаць абаронца **Алег Галаўнёў**. Будзем спадзявацца, што хутка паласа траўмаў і хваробаў у камандзе скончыцца.

**– Футбол другі раз запар збірае на стадыёне нямала балельшчыкаў…**

– Так, сапраўды. Мы і не чакалі такой падтрымкі. Калі збіраецца такія трыбуны, гуляць вельмі прыемна, гэта дапамагае. Хачу падзякаваць усім тым, хто падтрымлівае нас!

**Аляксандра ПАРАХНЯ, Наталля ТУР.**



Фота Наталлі ТУР.

**У канцы матча ледзь не дайшло да сутычкі паміж футбалістамі на полі.**



НАВІНЫ

### Мядзельскія весляры сталі прызёрамі

**МЯДЗЕЛ.** У Брэсце 24-26 мая адбылося першынство Беларусі па веславанні на байдарках і каноэ. З узнагародамі вярнуліся адтуль прадстаўнікі Мядзельскай СДЮШАР.

Увесь спектр узнагарод у активе **Аляксея Талочкі.** Ён заняў першае месца на каноэ-адзіночцы на дыстанцыі 500 метраў, другое – на каноэ-адзіночцы на 200 метраў, трэцяе – на каноэ-чацвёрцы на 1000 метраў.

**Юлія Захарэвіч** заваявала “серабро” на каноэ-двойцы на дыстанцыі 500 метраў. **Аляксей Махніст** быў двойчы трэцім на дыстанцыях 500 і 1000 метраў на каноэ-адзіночцы.

Аляксей Талочка трапіў у каманду юнакоў Беларусі для паездкі на першынства Еўропы ў Польшчы, паведаміў трэнер СДЮШАР **Аляксандр Карпей**.

### “Клецк” і “Вілія” на дваіх забілі дзесяць мячоў

**ВІЛЕЙКА.** 26 мая ў Клецку ў другім туры чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе каманда “Вілія” (Вілейка) сустракалася з гаспадарамі.

Лік у матчы зафіксаваны хакейны. Каманда “Клецк” выйграла ў “Віліі” з лікам 6:4, паведаміў старшыня федэрацыі футбола Вілейскага раёна **Ігар Шабан.**

### Вілейскія плыўцы ў прызёрах “Залатой рыбкі”

**ВІЛЕЙКА.** 25 мая сярэдняя школа №14 Маладзечна сустракала ўдзельнікаў абласных спаборніцтваў сярод дзяцей і падлеткаў “Фестываль плавання “Залатая рыбка” на прызы Аляксандры Герасімені”.

У спаборніцтвах прымалі ўдзел каманды-пераможцы занальных абласных спаборніцтваў з Вілейскага, Барысаўскага, Дзяржынскага, Клецкага і Салігорскага раёнаў, паведаміла метадыст Вілейскага раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Людміла Арлоўская**.

Кожную каманду прадстаўлялі дзве дзяўчынкі і два хлопчыкі ў дзвюх узроставых катэгорыях. Была і сямейная эстафета вольным стылем. Вілейскі раён прадстаўляла сям’я **Балвака** – тата **Мікалай**, мама **Вольга** і сын **Юры**. У камандным заліку каманда Вілейскага раёна заняла трэцяе месца.

– Па выніках індывідуальных заплываў **Данііл Лемцюгоў** узнагароджаны кубкам і дыпломам першай ступені, – расказала Людміла Арлоўская. – **Максім Шашок** – кубкам і дыпломам другой ступені, **Яўген Радзевіч** – кубкам і дыпломам трэцяй ступені. Сям’я Балвака ўзнагароджаная заахвочвальным прызам як самая маладая сям’я-ўдзельніца.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Камент-эксперт



**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### З-за выпальвання травы на Мядзельшчыне згарэла дача

Жыхары Старлыгаў яшчэ і цяпер не могуць адысці ад шоку ад "працы" пажарнікаў Свірскага аддзялення. Гэта было нешта!!! Мала таго, што прыехалі амаль што "на вуглянішча" (12 кіламетраў па асфальце), дык і без вады!!! На абурэнне мясцовых жыхароў агняборцы брава адказвалі – маўляў, цыстэрна цячэ. ...А хата спадара Ясюкевіча працягвала дагараць. 80-гадовы чалавек як мог змагаўся з агнём, а пажарнікі запампоўвалі ваду каля мясцовай школы. Паўстае пытанне: навошта нагогул такія "спецыялісты"? Можа, і Вы, Ігар Балаш, падтрымаеце жыхароў Старлыгаў?! Няўжо без Мінска аніяк нельга абысціся! ***Чытач.***

### Футбольны клуб "Маладзечна" запрашае на дамашні матч

Наперад, хлопцы!!! Новая каманда, новае кіраўніцтва – новыя мэты!!! Даеш Мола на павышэнне! Прапаную заўзятарам прыходзіць на стадыён з бела-зялёнымі шалікамі – пакажам, што мы – футбольны горад са слаўнымі традыцыямі і вялікай будучыняй! Бела-зялёны – самы нязломны! ***Пан Шыманскі.***

### Матч "Маладзечна" супраць "Партызана-МТЗ" – 1:1

Чаму назвы камандаў на электронным табло на расейскай мове, а не на беларускай? Трэба сябе паважаць! ***Ihar.***

### У вёсцы Варняны мужчына паехаў у краму – на яго склалі восем пратаколаў

Дafa, схадзіў мужык за хлябком) ***Sveta.***

**КУЛЬТУРА**

# Адзіны аркестр КДБ у Беларусі – у Маладзечне



Фота забяспечана Віталем БАЖКО.

**Выступае аркестр КДБ, адзіны ў Беларусі, які створаны ў Маладзечне.**

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета адзінаму аркестру КДБ у Беларусі – 55 гадоў.**

"Усе нашы песні – усё наша жыццё", – гэту песню ваенны аркестр КДБ любіць выконваць больш за ўсё.

– Ёсць такая спецыяльнасць – ваенны музыкант, – кажа дырыжор **Віталь Бажко**.

Аркестр складаецца з 21 чалавека і ўяўляе сабой малы змяшаны састаў палкавога аркестра.

У рэпертуар музычнага калектыву ўваходзяць перакладанне твораў айчыннай і сусветнай музычнай класікі, творы, спецыяльна напісаны для ваенных аркестраў. І, вядома ж, адным з найважнейшых з'яўляецца гераічная і ваенна-патрыятычная тэматыка ў музыцы.

Шмат у аркестры і маладых музыкантаў. Прапаршчык **Анастасія Кузмірук**, прапаршчык **Мікалай Адынец**, старшына **Анастасія Валасковіч**, старшына **Вадзім Мілюцін**, сяржант **Юры Пілецкі** і сяржант **Таццяна Рудзянкова**.

Адным з дасягненняў цяперашняга саставу аркестра з'яўляецца жанравая разнастайнасць і ідэйна-мастацкае багацце рэпертуару.

Сёння аркестр акрамя музыкі службова-страявога прызначэння (паходныя, сустрэчныя, маршы) выконвае таксама канцэртныя п'есы і забаўляльную музыку (танцы, музыка-фантазія, рапсодыі, папуры, уверцюры).

Аркестр здольны выступаць у самых разнастайных акустычных і кліматычных умовах. І ў памяшканні, і на адкрытым паветры, і ў тым ліку пры нізкай тэмпературы, і ў руху.

Ні адна святочная падзея ў Маладзечне не абыходзіцца без удзелу калектыву. Аркестр выступае з канцэртамі ў Дамах культуры, у гарадскіх парках, школах, лагерах, на канцэртных пляцоўках і на святочных шэсцях.

**Віталь БАЖКО, ваенны дырыжор.**

**СУДОКУ**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 6 | |
| 6 | | 4 | 5 | 9 | | | | |
| 1 | 2 | 3 | | 8 | | | 4 | 9 |
| | | | | 3 | | 1 | | 7 |
| | | 5 | | | | 8 | | |
| 7 | | 1 | | 6 | | | | |
| 4 | 5 | | | 7 | | 6 | 9 | 3 |
| | | | | 2 | 6 | 4 | | 5 |
| | 3 | | | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

**РЭПЕРТУАР**

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Экшн, камедыя **"Крывёй і потам: Анаболікі"** (ЗША, 2013, для гледачоў, якім за 16 год)
31 мая – у 21.00
1 чэрвеня – у 18.30, 21.00
2 чэрвеня – у 18.30, 21.00
3 чэрвеня – у 21.00
4 чэрвеня – у 21.00
5 чэрвеня – у 21.00
6 чэрвеня – у 18.30, 21.00
Кошт білета – 25 000 рублёў

Прэм'ера першага беларускага поўнаметражнага анімацыйнага фільма! **"Прыгоды Несцеркі"** (2012, без узроставых абмежаванняў)
31 мая – у 16.30
1чэрвеня – у 14.00
2 чэрвеня – у 14.00
5 чэрвеня – у 16.30
6 чэрвеня – у 17.00
Кошт білета – 10 000 рублёў

Прыгодніцкі экшн **"Жалезны чалавек 3"**, 3D (ЗША, Кітай, 2013, 2 серыі, дзецям да 14 год прагляд дазволены у суправаджэнні бацькоў ці педагога)
31 мая – у 18.00
1 чэрвеня – у 15.30
2 чэрвеня – у 15.30
3 чэрвеня – у 18.00
4 чэрвеня – у 18.00
5 чэрвеня – у 18.00
Кошт білета – 35 000-40 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыйныя прыгоды **"Сябрыназаўсёды"** (Германія, Італія, без узроставых абмежаванняў)
1, 2 чэрвеня – у 16.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Камедыя **"Ваннабіz"** (ЗША, для гледачоў, якім за 16 год)
31 мая – у 17.30, 19.30, 21.30
1 чэрвеня – у 17.30, 19.30, 21.30
2 чэрвеня – у 17.30, 19.30, 21.30
3 чэрвеня – у 21.30
4 чэрвеня – у 19.30, 21.30
5 чэрвеня – у 19.30, 21.30
6 чэрвеня – у 19.30, 21.30
Кошт білета – 25 000 рублёў

Тэл. для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

**ГАРАСКОП (31 МАЯ – 6 ЧЭРВЕНЯ)**



**Авен.** Вы даведаецеся нешта пра чалавека, які вас цікавіць. Скарыстайце гэту інфармацыю сабе на карысць. Цяпер адбудуцца перамены ў шмат якіх сферах жыцця.



**Блізняты.** Старайцеся не назапашваць бягучыя справы. Будзьце больш уважлівыя: памылкі, якія зробіце, маюць уласцівасць ускладняць вам жыццё.



**Цялец.** Асноўнымі тэмамі перыяду стануць ваша пастаянная месца работы і вашы рамантычныя адносіны. Не бойцеся прымаць важныя рашэнні не толькі за сябе, але і за іншых.



**Рак.** Уважліва аднясіцеся да свайго здароўя, не выпрабоўвайце арганізм на трываласць.



**Леў.** Трымайцеся стойка і рэалізуйце задуманае да канца – тады можна разлічваць на поспех. Нічога не гаварыце лішняга, каб не стаць ахвярай плётак.



**Дзева.** Калі адчуваеце, што стаміліся ад працы, ад сустрэч і вам не хочацца мець зносін з людзьмі, – значыць, пара ў адпачынак. Гумар і аптымістычны погляд на жыццё дапамогуць вам з годнасцю выйсці з любой сітуацыі.



**Шалі.** Не спрабуйце ўстанаўліваць уласныя законы сярод блізкіх – гэта справакуе пагаршэнне адносін. І не раскрывайце каму б там ні было сваіх планаў.



**Скарпіён.** Раптоўныя кар'ерныя ўзлёты здараюцца, на жаль, даволі рэдка, аднак цяпер можна чакаць і не такіх цудаў. Праверце: магчыма ў вас атрымаецца заняць месца, якое вызвалілася.



**Стралец.** Асцерагайцеся чужых парад: не выключана, што іх будуць даваць скрытыя нядобразычліўцы.



**Казярог.** Вас парадуюць поспехі дзяцей і каханага чалавека. Naладзьце ім у адказ рамантычны ўік-энд! І не давайце нікому абяцанняў, яны будуць абцяжарваць вас.



**Вадалей.** Імкненне пашырыць гарызонты не ілюзорнае, цяпер вы зможаце асвоіць нешта новае і карыснае для сябе, павысіць узровень прафесійных ведаў.



**Рыбы.** У каханні будуць важныя кантакты без слоў, інтуітыўнае пранікненне ў думкі і пачуцці партнёра. Вам трэба навучыцца аддаваць, а не толькі атрымліваць.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

**Камент-эксперт**

erh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета

## НАДВОР’Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +16 / +22 | | +18 / +22 | | +17 / +21 | | +17 / +18 | |
| | 736 | ↖ 5 | 735 | ↖ 6 | 737 | ← 5 | 737 | ↖ 4 |
| Вільня | +17 / +23 | | +18 / +24 | | +16 / +22 | | +17 / +22 | |
| | 744 | ↖ 5 | 743 | ← 6 | 746 | ← 2 | 746 | ← 3 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 4.44
Захад 21.36
Даўжыня дня 16.52

Усход 1.16
Захад 12.27
Квадра 4

**1 чэрвеня, субота**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +15 / +24 | 747 | ↖ 4 |
| Мінск | +18 / +22 | 735 | ↖ 6 |
| Магілёў | +16 / +24 | 741 | ← 5 |
| Гродна | +18 / +21 | 739 | ↖ 7 |
| Гомель | +18 / +26 | 743 | ← 5 |
| Брэст | +16 / +16 | 740 | ↖ 4 |

## ПРЫКМЕТЫ

- Летні дзень зіму корміць.
- Хто халадку шукае, той узімку галадае.
- 4 чэрвеня. Васіліск – васільковы дзень. Не аралі і не сеялі, каб не завялося ў полі пустазелле.

## Чытайце праз тыдзень:

- **Як дураць на кірмашах: як прадаюць “натуральны” шоўк і ўвогуле “якасны” тавар. Карэспандэнтка “РГ” распавядае пра свой досвед працы на кірмашы.**



## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВІЛЕЙКІ

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Вілейка узбагацілася новымі скульптурамі.**
Падрабязней чытайце на 19-й старонцы.



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Што для вас выпускны?

**Кацярына Ячнік, майстар па манікюры:**

– Для мяне гэта вельмі адказны дзень. Нейкі своеасаблівы пераход у дарослае жыццё. Вялікае свята. Вельмі сумую па сваіх аднакласніках і радуюся, калі мы сустракаемся разам. А з пункту гледжання працы, вельмі насычаны і інтэнсіўны перыяд.

**Вольга Сулім, фатограф:**

– Асабліва і не памятаю свой школьны выпуск, бо скончыла ў 2001 годзе. Перадусім, гэта развітанне са сваімі настаўнікамі, з якімі звязаныя вельмі добрыя і прыемныя ўспаміны.

**Іван Апанасевіч, пенсіянер:**

– Для мяне школьны выпускны – гэта светлы след на ўсё жыццё. Успамінаю, як хадзілі сваім класам сустракаць світанне. Было такое адчуванне, як быццам лёталі на крылах. Сёння нават і не ведаю, дзе тыя мае аднакласнікі, бо разляцеліся ў розныя бакі і зрэдку каго бачу, а некаторых ужо і няма ў жывых.

**Вадзім Рамановіч, студэнт:**

– Для мяне выпускны – гэта, перш за ўсё, развітанне са школай. А яшчэ велізарная адказнасць, якая з’яўляецца адразу і доўжыцца на працягу ўсяго жыцця. Упершыню пачынаеш задумвацца пра сваю будучыню. Святам я гэта лічу 50 на 50. Хутчэй, добрая нагода пасвяткаваць з сябрамі.

**Валянцін Каралёў, электраманцёр:**

– Для мяне школьны выпускны – гэта развітанне з аднакласнікамі, шмат з кім я і цяпер добра сябрую. Потым пачнуць з’яўляцца аднагрупнікі, калегі. Апроч усяго, гэта яшчэ і вялікія выдаткі, якія ідуць і на адзенне, і на само святкаванне.

**Іван Новік, сантэхнік:**

– Нехта двоечнік добра ўладкуецца, будзе атрымліваць вялікі заробак, а нехта і выдатнік не зможа знайсці сябе – каму як пашчасціць. На выпуску думаў, што яшчэ з кім сустрэнемся, але школу ў вёсцы развалілі і ніяк не атрымліваецца каго пабачыць знОўку.

**Алена Карней, дзяжурная Дома адпачынку:**

– На свой школьны выпускны не хадзіла. Наколькі гэта свята – не ведаю. Для каго – вялікая і значная падзея, а для некага – проста звычайны дзень.

**Падрыхтаваў Яўген КАРОСЦІК.**

Рэгіянальная газета. Выходзіць па пятніцах. Аб’ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6250 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 22 (944) 31.05.2013.
Друкарня ТДА “Знамение”. Г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 481. Падпісана ў друк у 10.00 30.05.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ “Банк БелВЭБ” аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”, УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.